А. ПАДЛІПСКІ

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЛЕТАПІСЕЦ ВІЦЕБШЧЫНЫ



НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

А. ПАДЛІПСКІ

# ЛЕТАПІСЕЦ ВІЦЕБШЧЫНЫ



МІНСК «ПОЛЫМЯ» 1993

ББК 63.3(2Б)
П 12
УДК 929 Сапуноў+947.65(092)

Серыя заснавана ў 1988 годзе

Рэцэнзент
доктар гістарычных навук **Л. В. Аляксееў**

Пераклад з рускай мовы
**А. Ф. Чарданцавай**

Книга посвящена белорусскому историку А. П. Сапунову, много сделавшему для изучения Полоцко-Витебского края. Наследие его обширно, а труды столь значительны, что без знакомства с ними не может обойтись ни один серьезный исследователь прошлого этого региона. До сих пор не переизданы его работы, вышедшие еще при жизни автора. Книга является первой попыткой познакомить широкий круг читателей с личностью, судьбой и творческой деятельностью замечательного знатока витебской старины.

П $\frac{0503020903-012}{М 306(03)-93}$ 25—93

ISBN 5-345-00697-0

# АД АЎТАРА

Чэрвень 1973 года. На вуліцах Віцебска поўным ходам ідуць прыгатаванні да ўрачыстасцей: у канцы жніўня наступнага года будзе адзначацца тысячагоддзе гэтага горада, аднаго са старэйшых у Беларусі. І, як звычайна бывае ў падобных выпадках, экскурсійнае бюро працуе з вялікім напружаннем. Са славутасцямі Віцебска знаёмяцца не толькі шматлікія госці, але і самі гараджане. У аўтобус заходзяць выкладчыкі і супрацоўнікі педагагічнага інстытута. Дзве гадзіны праляцелі непрыкметна, як адно імгненне. Цяпер 30 хвілін на адпачынак, а затым яшчэ адна група. Пакуль жа можна расслабіцца, пасядзець у невялічкім цяністым скверы. З аўтобуса выходзіць і набліжаецца да мяне немаладая, худзенькая жанчына. Яна, відавочна, хоча штосьці спытаць. Гэта, па праўдзе кажучы, не вельмі дарэчы: стаміўся, наперадзе яшчэ дзве гадзіны работы. Але...

— Вялікі дзякуй за экскурсію...— Яна задумалася і дадала.— Я ўвесь час спадзявалася пачуць адно прозвішча. Вельмі шкада, калі гэтага чалавека ў Віцебску не памятаюць. А ён вельмі шмат зрабіў для вывучэння гістарычнага мінулага горада...

— Вы маеце на ўвазе Сапунова?

— Менавіта яго.— Мая субяседніца ажывілася.— Вельмі рада, што ведаеце пра яго. А ці не жадаеце пазнаёміцца з яго пляменніцамі? Я магу сказаць іх адрас...

Нібыта ў казцы альбо ў кіно! Столькі год безвынікова шукаў родных гісторыка, сутыкнуўся з некалькімі самазванцамі. Страціў ужо ўсялякую надзею. І вось шчаслівы выпадак...

Праз некалькі дзён у мяне быў адрас Зоі Іванаўны і Галіны Іванаўны Сапуновых. І ў Калугу, дзе яны тады жылі, паляцела першае пісьмо. Адказ прыйшоў хутка, завязалася перапіска і завочнае знаёмства. А ў жніўні 1974 года, калі ўжо у Віцебску праходзілі ўрачыстасці, яны прыехалі ў горад на Заходняй Дзвіне. У шумным, святочным натоўпе гараджан ніхто не звяртаў увагі на дзвюх сівавалосых жанчын, якія імкнуліся ўсюды пабываць і ўсё ўбачыць. Ім вельмі хацелася пачуць добрае слова пра Аляксея Парфёнавіча. На жаль, гэтага не здарылася: кляймо «буржуазнага» гісторыка працягвала іграць сваю магічную ролю. Два-тры невялічкія артыкулы ў газеце ды часопісе — гэта ўсё, што я мог паказаць ім. Зараз абедзвюх пляменніц Сапунова ўжо няма ў жывых. Магу толькі ўявіць, як парадаваліся б яны гэтаму выданню...

# ВЫТОКІ

## *Дзяцінства. Навучанне ў Віцебскай гімназіі і ў Пецярбургскім універсітэце*

Род Сапуновых паходзіць са старажытнага гарадка Усвяты. Зараз Усвяты знаходзяцца на тэрыторыі Пскоўскай вобласці Расіі, аднак на працягу многіх вякоў іх гісторыя была непарыўна звязана з віцебскай зямлёй. Горад уваходзіў у склад Віцебскага княства і Віцебскай губерні і толькі пасля 1917 года адышоў да Пскоўшчыны.

Бацькі будучага гісторыка Парфен Данілавіч і Наталля Трафімаўна па паходжанні сяляне. Праўда, у сярэдзіне 1860-х гадоў бацька Сапунова запісаўся ў купцы 3-й гільдыі. Аляксей, які нарадзіўся 15(27) сакавіка 1851 года[1], быў у сям'і другім сынам. Старэйшага звалі Іванам, малодшага, што з'явіўся на свет у 1856 годзе,— Пятром. Першапачатковую адукацыю хлопчык атрымаў у павятовым вучылішчы, а ў 1862 годзе паступіў у Аляксандраўскую гімназію ў Віцебску. Асаблівымі здольнасцямі да навук Аляксей не вызначаўся. Адзнакі ў атэстаце «пры выдатных паводзінах» не з самых лепшых: дзевяць «вельмі добра» (руская мова і літаратура, усеагульная і руская гісторыя, усеагульная і руская геаграфія, фізіка, латынь) і столькі ж «здавальняюча» (арыфметыка, алгебра, геаметрыя, трыганаметрыя, грэчаская і французская мовы, катэхізіс, царкоўная гісторыя). Тым не менш ён вырашыў



Гімназія, дзе вучыўся А. П. Сапуноў

працягваць навучанне на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Якраз у гэты час Аляксей застаўся без бацькі. У пасведчанні, выдадзеным Веліжскай гарадской думай, зазначана, што ён «па абмежаваных сродках сваіх і старэйшага брата Івана Парфенавіча, не можа працягваць курс навучання ў вышэйшай навучальнай установе». Ад платы за вучобу Сапунова, як відаць, вызвалілі. Аднак гэтага было ўсё ж недастаткова для таго, каб заставацца ва універсітэце. Давялося зарабляць на жыццё, даючы прыватныя ўрокі. На прашэнні аб выдачы пасведчання зроблена прыпіска: «Студэнт Сапуноў вылучаецца паводзінамі даволі добрымі». На апошніх курсах, уліч-

ваючы матэрыяльныя цяжкасці і добрую паспяховасць, Аляксею была прызначана стыпендыя міністэрства народнай асветы, якая, зразумела, значна аблегчыла жыццё Сапунова ў сталіцы.

Першы год вучобы пераканаў юнака ў правільнасці яго выбару. Пецярбургскі універсітэт заўсёды лічыўся адной з перадавых навучальных устаноў Расіі. Сярод тутэйшых выкладчыкаў было нямала выдатных вучоных. Славіўся сваімі прафесарамі і гісторыка-філалагічны факультэт.

Філолаг і этнограф І. Сразнеўскі (1812—1880) па праву лічыўся заснавальнікам пецярбургскай школы славістаў. Яго даследаванні ляглі ў аснову гісторыі вывучэння рускай мовы. Значны ўклад вучоны зрабіў у дыялекталогію, бібліяграфію, археалогію, методыку выкладання рускай мовы, гісторыю рускай літаратуры, вывучэнне памятнікаў славянскай і рускай пісьменнасці.

Вялікай папулярнасцю ў студэнтаў карысталіся лекцыі гісторыка рускай літаратуры М. Сухамлінава (1828 — пасля 1860), аўтара выдатных даследаванняў пра Ламаносава, Новікава, Радзішчава і Пушкіна. Яго самая вядомая праца — «Гісторыя расійскай акадэміі»* — уяўляе сабой шэраг манаграфій аб пісьменніках і вучоных канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя.

Шырока вядомы быў фалькларыст і літаратуразнаўца О. Мілер (1833—1889), які першым у Расіі пачаў сістэматычна займацца вывучэннем народнай творчасці. За шэсць гадоў да паступлення А. Сапунова ва універсітэт вучоны расказваў пра гэта ў сваёй працы «Вопыт гістарычнага агляду рускай славеснасці».

* Надалей усе назвы дакументаў і літаратурных крыніц падаюцца ў перакладзе на беларускую мову (за выключэннем назваў перыядычных выданняў).

О. Мілер чытаў таксама курс «Руская літаратура пасля Гогаля».

Пытанні фальклору і этнаграфіі шырока асвятляліся ў лекцыях прафесара Л. Майкава (1839—1900), брата вядомага паэта. Вучоны з'яўляўся адным з выдаўцоў трохтомнага збору твораў К. Бацюшкава і манаграфіі аб яго жыцці і творчасці, а таксама адным з ініцыятараў выдання часопіса «Жывая гісторыя».

З 1872 года выкладаў ва універсітэце буйны знаўца візантыйскай і заходнееўрапейскай літаратуры А. Веселоўскі (1838—1906). Яго даследаванні творчасці Бакачча, Дантэ і Петраркі былі высока ацэнены нават у Італіі, а працы пра Пушкіна і Жукоўскага вызначаліся эрудыцыяй, глыбокім пранікненнем у дух эпохі.

Нямала знакамітых вучоных было і сярод гісторыкаў. Курс сярэдневякоўя выкладаў заснавальнік навуковага візантыязнаўства ў Расіі В. Васілеўскі (1838—1899), які ўнёс шмат новага ў галіну крыніцазнаўства. У звычайных жыццёвых дакументах ён знаходзіў мноства каштоўных звестак па культуры і быту, выдаў з цікавымі каментарыямі шэраг гістарычных крыніц. Вучоны з'яўляўся ініцыятарам стварэння і адным з рэдактараў «Візантыйскага часавіка».

Сярод выкладчыкаў кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі вылучаўся акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук, член Археаграфічнай камісіі Рускага геаграфічнага таварыства і Пецярбургскага славянскага камітэта К. Бястужаў-Румін (1829—1897). Ён вёў вялікую публікацыйную работу, выдаваў першакрыніцы. У 1872—1882 гадах узначальваў вышэйшыя жаночыя курсы, якія пазней называліся Бястужаўскімі. Значнае месца ў навуковай дзейнасці К. Бястужава-Руміна займала старажытнаруская літаратура, у прыватнасці «Аповесць мінулых гадоў», паўднёварускія летапісныя зводы. З яго лекцый, даследаванняў А. Сапуноў шмат узяў для сваёй будучай працы.

Найбольш моцна ўразіў студэнта вядомы славіст Уладзімір Іванавіч Ламанскі (1833—1914). Выпускнік Пецярбургскага універсітэта, прафесар, акадэмік Пецярбургскай АН, ён больш як 30 гадоў працаваў у alma mater і ўнёс значны ўклад у развіццё славяназнаўства. Заснаваныя на вялікім фактычным матэрыяле працы У. Ламанскага пастаянна прыцягвалі да сябе ўвагу спецыялістаў. Уладзімір Іванавіч хутка прыкмеціў Аляксея Сапунова, вылучыўшы яго з кагорты сваіх шматлікіх выхаванцаў. Першыя крокі ў навуцы віцебскі гісторык зрабіў яшчэ студэнтам менавіта пад кіраўніцтвам У. Ламанскага, а пасля заканчэння універсітэта ў 1873 годзе прафесар прапанаваў яму застацца на сваёй кафедры.

З дапамогай вядомага славіста Аляксей Парфенавіч прыступіў да перакладу з лацінскай хронікі Адама Брэменскага (XI ст.) пра балтыйскіх славян. Праца была перапынена з-за нечаканай хваробы Сапунова. Па той жа прычыне Аляксей Парфенавіч вымушаны быў пакінуць універсітэт і заняць вакантную пасаду выкладчыка старажытных моў у Віцебскай гімназіі. Праз шмат гадоў гэта праца паслужыла матэрыялам для яго трох лекцый, прачытаных у Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута, па тэме: «Балтыйскія славяне і іх чатырохсотгадовая барацьба з немцамі». Тэкст іх у 1916 годзе быў апублікаваны ў газеце «Витебский вестник», а сам рукапіс з паметкамі В. Ламанскага загінуў у 1919 годзе.

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

### *Горад у канцы XIX стагоддзя. Выкладанне ў гімназіі. Пачатак краязнаўчай дзейнасці*

Вярнуўшыся праз чатыры гады ў Віцебск, Сапуноў не заўважыў у ім якіх-небудзь адметных змен. Горад

жыў сваім звычайным, нетаропкім жыццём. «Віцебск маляўніча раскінуўся часткова на высотах левага (па цячэнню) берага Заходняй Дзвіны — старажытнага Рубона,— часткова на нізіне правага. Здалёк вабяць белізной высокія вежы храмаў яго, ... стракатай стужкай бягуць уздоўж берага сціплыя хаткі небагатых жыхароў горада на Дзвіне, што ціха цячэ ў крутых берагах, ляніва плывуць нагружаныя збожжам, ільном і шмат чым іншым лайбы; шэра-белыя хмары паўзуць па небе; рэзкі вецер гайдае тонкія дрэўцы гарадскога бульвара, а цёмныя палосы яловага лесу, акантоўваючы з усіх бакоў малюнак горада, хаваюць у сваёй гушчы з усіх бакоў малюнак горада, хаваюць у сваёй густой зеляніне беднасць тутэйшай прыроды»,— так апісвае тагачасны Віцебск папярэднік А. Сапунова на краязнаўчай ніве, сакратар губернскага статыстычнага камітэта А. Семянтоўскі. А вось ўражанне аб Віцебску канца XIX стагоддзя С. Маршака, які гасціў тут у бабулі і дзядулі: «...усё тут нейкае іншае, асабліва шмат старых дамоў, шмат вузкіх, крывых, гарбатых вуліц і зусім цесных завулкаў. Там-сям узнімаюцца старадаўнія вежы і цэрквы. У кожным закавулку туляцца адна да другой мізэрныя і ўбогія майстэрні бляхароў, лудзільшчыкаў, краўцоў, шаўцоў, рымараў».

Ва ўспамінах сучаснікаў не знайшлося месца для інфармацыі аб прамысловасці, якая толькі-толькі нараджалася ў горадзе. Буйных прадпрыемстваў тут яшчэ не было. Нават на самых вялікіх фабрыках і заводах працавала па два дзесяткі чалавек. Найбольш развітымі былі цагляна-кафельная, шчаціннная, шкляная, васкабойная, піваварная, гарбарная вытворчасці.

У 1888 годзе ў Віцебску налічвалася ўсяго 43 прадпрыемствы, на якіх было занята 137 рабочых. Насельніцтва з 29 тысяч у 1866 годзе вырасла да 59 тысяч у 1888 годзе.

Культурнае жыццё горада не абмяжоўвалася хатнім музіцыраваннем і аматарскімі пастаноўкамі папу-

лярных п'ес. З 1845 года працаваў тэатр, часта прыязджалі прафесійныя драматычныя і оперныя трупы, вядомыя музыканты. На гастролях у горадзе пабывалі А. Рубінштэйн (1869), С. Рахманінаў (1895), Г. Фядотава (1895). У 1868 годзе створаны музей старажытнасцей, праз тры гады адбылася першая мастацка-археалагічная выстава. У 1883 годзе створана таварыства аматараў музычнага і драматычнага мастацтваў, яшчэ праз некалькі гадоў — прыватная мастацкая школа Ю. Пэна.

На ніве гістарычнага краязнаўства Полацка-Віцебскага краю да таго часу працавала ўсяго некалькі чалавек. Калі не лічыць польскіх гісторыкаў А. Гваньіні і М. Стрыйкоўскага, што жылі ў Віцебску ў 1570-х гадах, ды агента Брытанскага біблейскага таварыства, які наведаў горад у 1816 годзе, то аўтарам першых даследаванняў з'яўляўся беларускі гісторык і этнограф, генерал-маёр корпуса ваенных тапографаў Генеральнага штаба М. Без-Карніловіч (1796—1862). У 1852 годзе ў сталіцы была выдадзена яго «Віцебская губерня», а праз тры гады — яшчэ адна буйная праца «Гістарычныя звесткі пра славутыя мясціны ў Беларусі з дадаткам і іншых звестак, што да яе ж адносяцца». Асабліва цікавыя былі гэтыя кнігі сваім багатым фактычным матэрыялам.

Першым пачаў сістэматычна займацца вывучэннем гісторыі Полацка-Віцебскага краю выкладчык Полацкай настаўніцкай семінарыі, а затым сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта К. Гаворскі (1821—1871). У 1858—1860 гадах у неафіцыйнай частцы газеты «Витебские губернские ведомости» публікаваліся яго артыкулы па гісторыі Віцебшчыны. А. Сапуноў лічыў яго самым адукаваным з усіх сакратароў гэтага камітэта.

Вялікі ўклад у вывучэнне археалогіі Полацка-Віцебскай зямлі ўнёс лепельскі памешчык М. Кусцінскі

(1825—1905), які раскапаў у Лепельскім павеце некалькі дзесяткаў курганоў, сабраў багатую калекцыю прадметаў старажытнасці і пачаў складаць фотатэку помнікаў старажытнасці.

Выдатным краязнаўцам з'яўляўся А. Семянтоўскі-Курыла (1821—1893), які шмат гадоў быў сакратаром Віцебскага статыстычнага камітэта і рэдактарам «Памятной книжки Витебской губернии». Ён — аўтар некалькіх дзесяткаў кніг, артыкулаў і нататкаў па пытаннях гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, прыродазнаўства, статыстыкі і прамысловасці Віцебшчыны. Найбольш вядомыя яго гістарычныя даследаванні — «Беларускія старажытнасці» (1890), «Гісторыка-статыстычныя звесткі аб павятовых гарадах Віцебскай губерні» (1864), «Помнікі даўніны Віцебскай губерні» (1867), «Віцебск. Гістарычны нарыс» (1865). Аднак працы А. Семянтоўскага не пазбаўлены пэўных недахопаў. Гэта — вольнае выкарыстанне гістарычных дакументаў і іх тлумачэнне, вялікая колькасць памылак і недакладнасцей, адсутнасць спасылак на крыніцы. У цэлым гістарычнае мінулае Полацка-Віцебскага краю да Сапунова было вывучана мала, асабліва гісторыя апошніх стагоддзяў. Таму, калі Аляксей Парфеновіч прыступіў да сваёй навуковай дзейнасці, перад ім, нават нягледзячы на працы А. Семянтоўскага, адкрылася некранутая цаліна.

Мужчынская губернская гімназія, у якой стаў выкладаць А. Сапуноў, размяшчалася на Успенскай горцы побач з аднайменным саборам, пабудаваным у сярэдзіне XVIII стагоддзя. Адкрытая ў 1808 годзе, яна з'яўлялася старэйшай навучальнай установай, сярод выхаванцаў якой у розны час былі дзекабрыст І. Гарбачэўскі, вядомыя вучоныя: літаратуразнаўца Л. Лазарэвіч-Шапялевіч, адзін з першых у Расіі санскрытолагаў К. Касовіч, прафесар Кіеўскага універсітэта С. Чыр'еў, паэт, фалькларыст і выдавец А. Рэпінскі.

Цікавы і такі факт: пасля заканчэння Айчыннай вайны 1812 года ў памяшканні гімназіі размяшчаўся шпіталь, у якім лячыўся бацька М. Лермантава Юрый Пятровіч.

Вяртанне ў гімназію было нялёгкім для Аляксея Парфенавіча. перш за ўсё ў псіхалагічным сэнсе: ён жа зусім нядаўна тут вучыўся. Аднак малады выкладчык хутка асвоіўся ў новай для сябе ролі. Дапамагло і тое, што нядаўнія яго настаўнікі адразу прызналі ў ім калегу і ўсяляк падтрымлівалі.

Першыя сем гадоў педагагічнай дзейнасці А. Сапунова нічым асаблівым не вызначыліся. А потым здарыўся выпадак, які сыграў рашаючую ролю ў яго далейшым лёсе.

Неяк аднойчы хтосьці з калег прынёс у настаўніцкі пакой невядомы старажытны дакумент. Ніхто з прысутных, у тым ліку і Аляксей Парфенавіч, нічога толкам не мог сказаць пра яго. І гэта надзвычай моцна ўразіла Сапунова. «Па гісторыі мы дасканала ведалі ўсіх Людовікаў, усіх Генрыхаў, усіх Карлаў-лысых, тоўстых, прыгожых, але нам нічога не было вядома не толькі пра Беларусь, а наогул пра славян,— пісаў ён пазней.— Мне вельмі захацелася пазнаць гісторыю роднага краю».

Першыя знаходкі захапілі маладога настаўніка, і ўжо нішто не магло яго спыніць у пачатым пошуку. «Цяжкая гэта была справа,— успамінаў А. Сапуноў, — цяжкая па многіх прычынах, якія прыпамінаць горка. Дастаткова сказаць, што начальства навуковай акругі бачыла ў гэтым «пабочным занятку» толькі «крадзёж казённага часу». Ледзь не кожны дзень пасля заняткаў у гімназіі ён наведваў мясцовыя бібліятэкі і архівы, знаёміўся з ужо надрукаванымі зборнікамі дакументаў і даследаваннямі гісторыкаў. На яго стале з'яўляюцца «Акты Заходняй Расіі», «Беларускі архіў старажытных грамат», «Кнігі пасольскія Літоўскай мет-

рыкі», хронікі Стрыйкоўскага, Гваньіні, Салікоўскага, Русава. У розных архівах — старажытных актаў губернскага праўлення, Маркава манастыра, статыстычнага камітэта, гарадской думы — ён адшукваў цікавыя дакументы, аб якіх ніхто з гісторыкаў нават не здагадваўся. І вось у 1881 годзе ў «Памятнай кніжцы Віцебскай губерні» з'яўляецца першая публікацыя Сапунова пад назвай «Гістарычныя звесткі пра Віцебскі замак». У ёй Аляксей Парфенавіч закрануў тэму, якая ў тыя гады выклікала ў горадзе вялікую цікавасць.

Гімназія ў той час размяшчалася ў двух невялікіх памяшканнях на Успенскай і Смаленскай вуліцах. У студзені 1875 года яе дырэктар звярнуўся да папячыцеля Віленскай навучальнай акругі з просьбай выдаткаваць сродкі на будаўніцтва новага будынка. Ужо ў лютым яна была задаволена. Спачатку прадугледжвалася размясціць гімназію на Сеннай плошчы (зараз гэта перакрыжаванне вуліц Б. Хмяльніцкага і Шубіна), аднак пасля запрапанавалі іншае месца — амаль у цэнтры горада, дзе непадалёку Віцьба ўпадае ў Заходнюю Дзвіну, на самой Замкавай гары. Значная частка яе была зрыта раней.

Для будаўніцтва патрабавалася знесці і большую частку таго, што яшчэ заставалася,—1726 квадратных сажэняў (7818 квадратных метраў). За некалькі месяцаў гэту работу выканалі 30 землякопаў. Знос Замкавай гары працягваўся і пасля заканчэння будаўніцтва гімназіі[2]. Новая гімназія будавалася на тэрыторыі Верхняга замка, дзе, па паданні, кіеўская княгіня Вольга заснавала Віцебск і загадала пабудаваць царкву св. Міхаіла. А. Сапунова прызначылі членам спецыяльнага часовага камітэта. У час раскопак былі знойдзены рэшткі фундамента старажытнай пабудовы, а таксама асобныя прадметы, перададзеныя затым у музей статыстычнага камітэта. Усё гэта спрыяла ўзнікненню цікавасці гараджан да старажытнай гісторыі Віцебска, і

ў прыватнасці да месца, дзе са студзеня 1880 года знаходзілася мужчынская губернская гімназія[3].

У сваёй працы, спасылаючыся на М. Стрыйкоўскага і А. Гваньіні, Сапуноў паведаміў, што першыя звесткі аб віцебскіх замках адносяцца да XIV стагоддзя, калі літоўскі князь Альгерд, жанаты першым шлюбам на дачцэ апошняга віцебскага князя Яраслава Васілевіча, «узмацніў Верхні замак каменнай сцяною і вежамі» і што ў «горадзе Віцебску два даволі вялікія і ўмацаваныя замкі, адзін з іх размешчаны на раўніне, называецца Ніжнім, а другі — Верхні — стаіць на высокім пагорку».

Аднак самыя дакладныя і падрабязныя звесткі А. Сапуноў знайшоў у Пісцовых кнігах, складзеных пры асадзе Віцебска рускімі войскамі ў часы царавання Аляксея Міхайлавіча. На аснове гэтых дакументаў гісторык склаў даволі дакладны план віцебскіх замкаў, даў ім дэталёвае апісанне. Зараз ад іх амаль нічога не засталося. Толькі руіны Благавешчанскай царквы, пабудаванай у XII стагоддзі, ды назва вуліцы, якая праходзіць тут,—Замкавая — нагадваюць аб тым, што менавіта на гэтым месцы шмат стагоддзяў таму назад узнік горад.

## «З'ЯВА САПРАЎДЫ ВЫДАТНАЯ...»

### *Выданне «Віцебскай даўніны». Знаёмства з Рэпіным*

Першая публікацыя А. Сапунова прыцягнула да яго ўвагу, імя маладога даследчыка стала добра вядома ў горадзе. Поспех і прызнанне садзейнічалі актывізацыі пошуку. У час канікул ён накіроўваецца ў Пецярбург, Маскву, Вільню, Полацк, каб працягваць працу ў архівах і бібліятэках. Месяцы напружанай і карпатлівай

працы аказаліся вельмі плённымі. Былі зняты копіі з сотнень цікавых дакументаў. Толькі цяпер Аляксей Парфенавіч па-сапраўднаму зразумеў, якая багатая і ў той жа час малавывучаная гісторыя роднага краю, як шмат невядомых і нявыкарыстаных дакументаў захоўвасцца ў архівах, бібліятэках, у розных дзяржаўных установах, у царквах і манастырах, у прыватных асоб.

Сабраны матэрыял быў такі багаты, што спачатку Сапуноў нават разгубіўся. На шчасце, знайшоўся чалавек, які змог даць маладому даследчыку добрую параду і падтрымаць яго,— урач Карл Васільевіч Бергнер. Выпускнік Дзерпцкага універсітэта, ён пасяліўся ў Віцебску ў 1863 годзе. Спачатку працаваў акушэрам, а ў жніўні наступнага года быў прызначаны гарадскім урачом. І на гэтай пасадзе ён знаходзіўся не адзін дзесятак гадоў. Праяўляючы гарачую цікавасць да гісторыі Віцебска, К. Бергнер калекцыяніраваў прадметы мясцовай даўніны, сабраў багатую бібліятэку, якую ў канцы свайго жыцця перадаў у мужчынскую гімназію. Убачыўшы, як самааддана Аляксей Сапуноў займаецца вывучэннем мінулага Віцебшчыны, ён параіў яму падрыхтаваць некалькі зборнікаў гістарычных дакументаў. Гэта прапанова адразу захапіла маладога настаўніка. Над назвай кнігі доўга не думаў — сама тэма падказала яе: «Віцебская даўніна».*

Зборнік быў задуманы ў шасці тамах. Змест першага склалі дакументы аб Віцебску, у другі меркавалася ўключыць матэрыялы пра Полацк, у трэці — пра гарады Віцебскай губерні Невель, Веліж, Дзвінск, Сураж, Усвяты, а таксама пра іншыя найбольш прывабныя ў гістарычным сэнсе населеныя пункты. Чацвёрты планавалася прысвяціць Полацку часоў Івана Грознага і Аляксея Міхайлавіча, пяты — уз'яднанню уніяцкай

* У канцы кнігі прыведзены спіс прац А. Сапунова на мове арыгіналаў.

царквы з праваслаўнай. Шосты том задумваўся як вялікі нарыс «Гістарычныя лёсы Віцебскай губерні», створаны на аснове тых дакументаў, якія ўвайшлі ў папярэднія выпускі. Асобнай кнігай прадугледжвалася выпусціць указальнік да ўсіх тамоў, а таксама разнастайныя дапаўненні і папраўкі.

Работа над першым томам працягвалася паралельна нядоўга. Значная частка тых дакументаў, што ўвайшлі ў яго, у аўтара ўжо мелася. Іх засталося толькі сістэматызаваць, зрабіць неабходныя заўвагі, падабраць ілюстрацыйны матэрыял. Пэўныя цяжкасці ўзніклі з фінансаваннем выдання. Сціплага заробку настаўніка гімназіі для гэтай мэты, вядома, не хапала. Пошук сродкаў зацягваўся. Таму Аляксей Парфеновіч вырашае адну з найбольш цікавых яе частак — «Летапіс горада Віцебска» — выдаць за свой кошт.

...У кастрычніку 1733 года віцебскі мешчанін Ян (Іван) Чарноўскі разам са сваім дзедам склаў спіс «даўно мінуўшых падзей, што адбыліся ў Віцебску і на (усёй) зямлі». Праз некалькі дзесяцігоддзяў «Летапіс горада Віцебска» стварыў мешчанін Міхаіл Панцырны. Праца ахоплівала перыяд з 896 па 1709 гады і ўяўляла сабой вытрымкі з рускіх і польскіх хронік. Дапоўніў і працягнуў работу М. Панцырнага віцебскі чыноўнік Гаўрыла Аверка. А ў ліпені 1768 года сын апошняга Стэфан (Сцяпан) Аверка аб'яднаў работы М. Панцырнага, Чарноўскіх і свайго бацькі, перапісаўшы іх слова ў слова ў адзін сшытак і дапісаўшы канец.

У верасні 1733 года віцеблянін Сямён Зямковіч склаў так званую «Кнігу прывілеяў г. Віцебска», якая ўяўляла сабой спіс арыгінальных грамат і прывілеяў, дараваных польскімі каралямі «віцебскім мяшчанам і нашчадкам іх на вечныя часы». Праз чвэрць стагоддзя мешчанін Міхаіл Слаўскі склаў другі такі спіс, які, аднак, пазней быў згублены. На шчасце, захавалася яго копія, перапісаная тым жа С. Аверкам. Названая «Хро-

нікаў г. Віцебска», яна добра дапаўняе «Кнігу прывілеяў».

Упершыню аб існаванні віцебскага летапісу паведаміў ў 1859 годзе ў адной са сваіх публікацый яе ўладальнік — вядомы беларускі археолаг і калекцыянер Канстанцін Тышкевіч (1806—1863). Пазней А. Сапуноў спрабаваў пазнаёміцца з гэтым рукапісам, але яго ў Лагойску тады ўжо не аказалася. Не выключана, што гэта была «Хроніка г. Віцебска»[4], якую пасля смерці яе ўладальніка перадалі ў Віленскую публічную бібліятэку[5]. А «Летапіс г. Віцебска» ў 1862 годзе хтосьці перадаў у Пецярбургскую публічную бібліятэку, дзе з ім і змог пазнаёміцца ў 1880—1881 гадах Аляксей Парфенавіч.

З вялікім хваляваннем ён гартаў пажоўклы ад часу сшытак у кардонавым пераплёце. Тэкст на польскай мове быў напісаны светла-рудым чарнілам буйным і выразным почыркам. Пераважная частка «Летапісу» належыць М. Панцырнаму — 22 рукапісныя старонкі з 39. Яна багацейшая і па зместу. Я. Чарноўскаму належаць усяго 2,5 ліста. Астатняе напісана Г. і С. Аверкамі. Запісы Чарноўскага ахопліваюць перыяд 1601—1733 гадоў, Г. Аверкі — 1704—1757, М. Панцырнага — 896—1709 гадоў.

*«У лета 974 Вольга, перамогшы ятвягаў і печанегаў, пераправілася цераз раку Дзвіну і з войскам забрачавала. Спадабалася ёй гара, і яна заснавала драўляны замак, назваўшы яго ад ракі Віцьбы Віцебскам, пабудавала ў Верхнім замку каменную царкву святога Міхаіла, у Ніжнім — Благавешчання і, пабыўшы два гады, адправілася ў Кіеў»,*— так пачынаецца «Летапіс г. Віцебска». У ім прыводзіцца шмат цікавых фактаў, якія сталі шырока вядомымі толькі пасля з'яўлення асобнага яго выдання ў 1882 годзе і выхаду годам пазней першага тома «Віцебская даўніна»:

— *у лета 1695. Цар Пётр Аляксеевіч хадзіў з вой-*

*скам пад Азоў; страціўшы шмат людзей, вярнуўся назад праз Віцебск...*

*— у лета 1695, месяца мая 26 дня, па старому календару, выпаў снег па калена і ляжаў тры дні...*

*— у лета 1696. З самага новага года не было саннага шляху. Дзвіна цэлы год не замярзала. Тавараў аніякіх не было, бо ў мінулым 1695 годзе марозам пабіла ўвесь хлеб...*

*— у лета 1700. Вада ў Дзвіне ўвосень была большая чым удвая супраць веснавой; нанесла вялікую шкоду мяшчанскім хатам...*

*— у лета 1701, лютага 19 дня, цар Пётр Аляксеевіч уехаў у Віцебск з не вельмі вялікаю сілаю, але стройна. Спыніўся ў бургамістра Зафатая. Даў магчымасць бачыць сябе амаль усяму народу. На трэці дзень выехаў з Віцебска ў Біржу...*

*— лета 1704. Была моцная бура ў Віцебску, месяца кастрычніка 18 дня; з хат пазрывала стрэхі і на царквах паламала крыжы...*

*— лета 1705, студзеня 15 дня, прыехаў у Віцебск фельдмаршал Барыс Пятровіч Шарамецеў, а пры ім было войска дзевяць палкоў. Стаялі ў мяшчан...*

*— у лета 1708. Пастаўлены былі два масты на рацэ Дзвіне, на стругах,— адзін супраць г. Галуды, а другі супраць Астаховіча...*

*— бурмістр і віцэ-ландвойт Гаўрыла Курылавіч Аверка памёр 1759 г., месяца кастрычніка 18 дня па рускім календары...*

Ёсць у «Летапісу г. Віцебска» нямала звестак, якія не тычацца Віцебска: пра будаўніцтва Ефрасінняй Полацкай каменнай царквы св. Спаса, пра пажар у Полацку, які знішчыў горад дашчэнту (1643), пра будаўніцтва царом Іванам Васільевічам у Смаленску «каменнай сцяны» (1510), выбранне князя Стэфана Баторыя на польскі прэстол (1577), пажар у Дзісне (1700), асаду Быхава Пятром І (1707). Разам з тым у пера-

кладзе, зробленым А. Сапуновым, сустракаюцца і памылкі. Так, напрыклад, слова «Подлясье» перакладзена як «Палессе», прозвішча «Глебовіч» — як «Хлябовіч» і г. д.[6]

Выдадзены ў 1882 годзе надта невялікім тыражом, «Летапіс г. Віцебска» падагрэў грамадскую цікавасць да выхаду першага тома «Віцебскай даўніны», які ўбачыў свет у 1883 годзе. Гэта аб'ёмнае выданне ў 690 старонак складаецца з 12 раздзелаў. У першым змешчаны кароткія летапісныя звесткі, якія тычацца Віцебска за перыяд з 1021 па 1499 гады. Узяты яны з вядомых летапісаў — Іпацьеўскага, Густынскага, Сафіеўскага першага, Патрыяршага, Быхаўца і інш. Сюды было сабрана ўсё, што толькі аўтар здолеў знайсці па гэтай тэме. Другі раздзел складаюць граматы, прывілеі, дагаворы і іншыя дакументы, якія адлюстроўваюць палітычнае, грамадскае і рэлігійнае жыццё горада з 1229 па 1858 гады. Ён самы важкі па аб'ёму, займае каля 200 старонак. За невялікім выключэннем усе гэтыя дакументы ўзяты з «Актаў Заходняй Расіі», «Весніка Паўднёвай і Заходняй Расіі». З нявыдадзеных раней матэрыялаў тут больш за ўсё запазычана з «Кнігі прывілеяў горада Віцебска». Трэці раздзел прысвечаны жыццю і дзейнасці віцебскага уніяцкага архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча, забітага ў Віцебску ў 1623 годзе ў час паўстання гараджан. Невялікі па аб'ёму, ён тым не менш дае дастатковае ўяўленне аб гэтым драматычным эпізодзе гісторыі горада. Дакументы, сабраныя ў чацвёртым раздзеле, апавядаюць аб віцебскім Свята-Троіцкім Маркавым манастыры. Большасць іх перадрукавана з «Актаў Віленскай камісіі». У пятым раздзеле пераважаюць матэрыялы аб яўрэйскім насельніцтве Віцебска, у шостым — аб Айчыннай вайне 1812 года. Сёмы раздзел складаюць звесткі аб мытных зборах, якія браліся ў горадзе ў другой палове XVII стагоддзя. Яны даюць наглядное ўяўленне аб развіцці і аб'ёме

гандлю. Інвентары, якія ўтрымліваюць падрабязныя апісанні розпай гарадской маёмасці і даходаў гарадской казны, уваходзяць у восьмы раздзел. Асабліва цікавы адзін з іх, за 1611 год. У ім дадзена апісанне ўсіх крам, дамоў, прыведзены прозвішчы іх уладальнікаў, ведамасць аб дваровых участках горада ў 1797 годзе, статыстычныя звесткі аб насельніцтве губерні ў 1808 годзе, вынікі аднадзённага перапісу жыхароў Віцебска, праведзенага ў 1863 годзе. Раздзел дзевяты — гэта «Летапіс г. Віцебска». У дзесятым змешчаны загалоўкі ўрадавых загадаў, якія тычацца як самога горада, так і Віцебскай губерні, і прыведзены нумары іх з «Поўнага збору законаў Расійскай імперыі». У раздзеле адзінаццатым — спісы ўсіх віцебскіх князёў, епіскапаў, ігуменаў манастыроў, ваяводаў, беларускіх генерал-губернатараў, грамадзянскіх губернатараў. Апошні раздзел ўяўляе сабой пералік найбольш важных падзей гісторыі горада Віцебска з самага першага ўпамінання пра яго да 1875 года.

Прыкметнай асаблівасцю першага тома «Віцебскай даўніны», якую адзначылі шматлікія рэцэнзенты, з'яўляецца яго афармленне. Прыгожая шматколерная вокладка, малюнкі гербаў Віцебска, Віцебскага княства і Віцебскай губерні, вялікая колькасць партрэтаў, віды віцебскіх храмаў, разнастайныя планы і чарцяжы, літаграфічныя выявы старажытных пячатак, грамат і рукапісаў — усё гэта надзвычай ажыўляла і ўпрыгожвала кнігу. Тое ж, зразумела, значна павялічвала выдаткі на яе, а такім чынам, і павышала кошт. «Віцебская даўніна», якая прадавалася па 3 рублі (а на добрай паперы нават па чатыры), была даступнай далёка не кожнаму. І хоць многія сем'і віцяблян лічылі за гонар мець у сваёй асабістай бібліятэцы гэтае выданне, зборнік разыходзіўся марудна. Затраты на яго не акупіліся б нават у тым выпадку, калі б былі распрададзены ўсе 500 экземпляраў. Зрэшты, Сапуноў не разлічваў на

камерцыйны поспех і, выпускаючы праз два гады чацвёрты том «Віцебскай даўніны», не змяніў сваіх адносін да афармлення, справядліва лічачы, што кніга ад гэтага толькі выйграе. А гэта было для яго галоўным. На выданне зборніка аўтару аказвалі матэрыяльную дапамогу: В. Валковіч (I тома) і Віленская навучальная акруга (IV тома— 200 рублёў, V тома — 300 рублёў). Усе астатнія грошы былі з асабістых сродкаў Аляксея Парфенавіча.

У пачатку чацвёртага тома змешчаны «Кароткі нарыс барацьбы Маскоўскай дзяржавы з Літвой і Польшчай у XVI—XVII стагоддзях», у якім побач з вядомымі фактамі, запазычанымі з працаў Карамзіна, Салаўёва, Бястужава-Руміна, Каяловіча і іншых аўтараў, А. Сапуноў выкарыстаў і матэрыялы, што публікаваў сам. Некаторыя з іх былі ўзяты ў архіве Міністэрства замежных спраў і выдаваліся ўпершыню. Іншыя ўяўлялі сабой выпіскі з хронік Бельскага, Стрыйкоўскага, Гейдэнштэйна, Гваньіні, Сакалоўскага і інш. Тут жа разрадныя кнігі (г. зн. афіцыйныя часопісы, у якіх адзначаўся парадак размяшчэння і выкарыстання ваенных сіл) полацкіх паходаў Івана Грознага, разнастайныя дакументы, што мелі дачыненне да ваенных дзеянняў польскіх і літоўскіх войск супраць маскоўскіх. Усе разам яны ствараюць даволі поўную карціну тагачасных падзей, перадаюць характарыстыкі Івана і Стэфана Баторыя. У другой частцы чацвёртага тома адлюстроўваецца гісторыя Полацкага і Віцебскага ваяводстваў пры бацьку Пятра I Аляксею Міхайлавічу. Тут змешчаны граматы, пісьмы, указы, кніга звестак аб перамогах. У каштарыснай кнізе Полацка 1654 года прыводзіцца інвентар усёй гарадской маёмасці, пабудоў, надрабязнае апісанне мясцовай крэпасці, цэркваў і манастыроў. Вялікую цікавасць уяўляюць перапісныя кнігі Віцебска, спісы шляхты, бурмістраў, сотнікаў і іншых чыноўнікаў.

Пяты том «Віцебскай даўніны» А. Сапуноў прымеркаваў да 50-годдзя ўз'яднання уніятаў з праваслаўнай царквой, якое адзначалася ў 1889 годзе. Гэта і вызначыла яго тэматыку. Амаль усе з 476 дакументаў, узятых з архіваў Полацкай кансісторыі і Віцебскага губернскага праўлення, друкаваліся ўпершыню, прычым 89 цалкам, а астатнія часткова альбо толькі загалоўкі. Справа ў тым, што некаторыя дакументы, змешчаныя ў першым і чацвёртым тамах, пераклікаюцца з пятым. Таму складальнік не стаў іх прыводзіць паўторна, а адсылаў чытача да адпаведнага зборніка. Найбольш цікавыя і важныя з іх А. Сапуноў прадставіў у арыгінале ў «Дадатках».

Фактычнай перадумовай да таго з'яўляецца «Кароткі нарыс гістарычных лёсаў Полацкай епархіі са старажытных часоў да паловы XIX стагоддзя». У ім утрымліваецца шмат цікавых фактаў не толькі царкоўнай гісторыі, але і палітычнай. Як і ў папярэдніх выданнях «Віцебскай даўніны», тут выкарыстаны гравюры і літаграфічныя партрэты, здымкі старадаўніх рукапісаў і актаў, партрэты царкоўных дзеячаў, старажытных абразоў, крыжоў, віды храмаў.

Пасля выхаду першага тома «Віцебскай даўніны» ў многіх перыядычных выданнях Расіі з'явіліся вельмі прыхільныя, а іншы раз нават хвалебныя рэцэнзіі. Чацвёрты том толькі павялічыў іх колькасць. Пра зборнік пісалі «Правительственный вестник» і «Русь», «Гражданин» і «Санкт-Петербургские ведомости», «Киевская старина», «Kraj», «Wiadomosti bibliograficzne», неаднаразова — «Русская старина», «Новое время». «У шэрагу правінцыйных гістарычных выданняў «Віцебская даўніна» павінна быць заўважана... Выдадзены том «В. Д.» — кніга шыкоўная»,— сцвярджала «Русская старина». «З'ява сапраўды выдатная... у нашай правінцыяльнай літаратуры»,— згаджалася з ёю «Новое время».— Усе аматары даўніны павінны падзякаваць

п. Сапунову за гэта даследаванне, якое надзвычай шчодра забяспечана ўсім тым, што надае асаблівую каштоўнасць кнігам такога рода». «Цудоўны гістарычны зборнік,— выказвала сваю думку «Русь»,— ...Калі б усе найбольш выдатныя мясціны нашага Заходняга краю прадставілі для знаёмства са сваім мінулым зборнікі гістарычнага матэрыялу накшталт тых, што мы разабралі, то ў рускай гістарычнай літаратуры з'явіліся б дакладныя і невычэрпныя сродкі для таго, каб выхаваць у рускай грамадскай свядомасці правільнае разуменне лёсу і значэння спрадвечных рускіх абласцей...». «Гражданин» называў зборнік «выданнем, якое заслугоўвае асаблівай увагі», а «Новое время» — «каласальным помнікам роднаму краю», падкрэсліўшы, што «на ўсім выданні ляжыць пячатка ведаў, ажыўленых сапраўды патрыятычнай любоўю да бацькаўшчыны, да яе мінуўшчыны».

Афіцыйным прызнаннем поспеху «Віцебскай даўніны» можна лічыць рашэнне вучонага камітэта Міністэрства народнай асветы рэкамендаваць усе тры тамы для набыцця ў фундаментальныя бібліятэкі навучальных устаноў.

Гэтая праца А. Сапунова не пазбаўлена, натуральна, і пэўных недахопаў. Рэцэнзент «Русской старины» бачыў іх у «адсутнасці перакладаў дакументаў на сучасную мову і тлумачэння шматлікіх незразумелых слоў і выразаў». «У такой масе разнастайных падрабязнасцей... надзвычай важны строгі план іх размяшчэння, а гэтага няма; напрыклад, нататкі пра дакументы альбо прыводзяцца побач з тэкстам, альбо аднесены ў «заўвагі» у некалькіх месцах кнігі»,— пісаў А. Пыпін. Ён жа справядліва заўважыў, што некаторыя фотаздымкі зроблены на спецыяльных уклейках, што само па сабе не вельмі зручна, да таго ж яшчэ вымушае адшукваць, да якога канкрэтна тэксту яны адносяцца.

У сучаснай гістарычнай навуцы «Віцебская даўніна» па-ранейшаму ацэньваецца дастаткова высока, хоць яе даволі сурова і не заўсёды справядліва крытыкаваў вядомы айчынны крыніцазнаўца і гісторык М. Улашчык. Адзначаючы, што Аляксей Парфенавіч надрукаваў шматлікія крыніцы без арыгіналаў, ён сцвярджае, што «пераклад не заменіць арыгінала, а ў Сапунова пры ўсёй яго эрудыцыі ў перакладах здараюцца вельмі непрыемныя ляпсусы». Слабым месцам зборніка, на думку М. Улашчыка, з'яўляюцца легенды, якія хоць і шматслоўныя, але «часта не ўтрымліваюць самых неабходных звестак». Усё гэта так. Аднак нельга забываць, што, выпускаючы «Віцебскую даўніну», аўтар не толькі меў на ўвазе навуковыя мэты, але і імкнуўся да папулярызацыі ведаў па гісторыі краю. Па гэтай прычыне ўсе матэрыялы прадстаўляліся ў найбольш даступным для простага чытача выглядзе. Ды і па аб'ёму кніга была дастаткова ўнушальнай, што рабіла далейшае павелічэнне яе за кошт арыгіналаў проста немагчымым.

На некаторых экземплярах выдання, якія захаваліся да нашых дзён, сустракаюцца дарчыя надпісы аўтара. Адзін з іх захоўваецца ў архіве Акадэміі мастацтваў і сведчыць аб знаёмстве Аляксея Парфенавіча з Ільёй Яфімавічам Рэпіным.

У 1892 годзе мастак набыў непадалёку ад Віцебска фальварак Здраўнёва. Разам са сваёй сям'ёй жывапісец адпачываў тут летам (па 1901 г.), здаралася, жыў угосень і вясной. Менавіта тут, у Здраўнёве, былі створаны яго вядомыя палотны «Асенні букет», «На сонцы», «Беларус», «Паненкі на прагулцы сярод чарады кароў», «Дуэль», «Месячная ноч», «Яблыні ў квецені» і інш. Калі і пры якіх абставінах пазнаёміліся Рэпін і Сапуноў — невядома. Хутчэй за ўсё гэта адбылося па ініцыятыве краязнаўца ў 1897 годзе або некалькі раней. Наведаўшы летам Здраўнёва, Аляксей Парфенавіч

паднёс мастаку ў якасці падарунка тры кнігі «Віцебскай даўніны». Пазней, у снежні, Ільля Яфімавіч пісаў гісторыку з Пецярбурга: «Шматпаважаны Аляксей Парфенавіч! Дзякуй Вам за Вашы выдатныя кнігі «Віцебскай даўніны». Гэта цудоўнае выданне. Якая сур'ёзная праца, колькі сабрана матэрыялаў. Я пакрыху знаёмлюся з імі. Вельмі, вельмі ўдзячны Вам. Буду лічыць за гонар як-небудзь аддзякаваць Вам!»

«Віцебская даўніна» падштурхнула І. Рэпіна на стварэнне ў адным з пакояў здраўнёўскага дома своеасаблівай галерэі Айчыннай вайны 1812 года. Гэта гісторыя вядома са слоў А. Жудро, былога супрацоўніка камісіі па ахове помнікаў гісторыі і мастацтва, якая існавала ў Віцебску ў 1918—1923 гадах. «У доме пастаянна жыла са сваёй сям'ёй дачка Ільі Яфімавіча. Пасля рэвалюцыі Віцебскі павятовы аддзел адукацыі адкрыў тут школу, загадчыцай якой была прызначана Таццяна Ільінічна. Ёй у гэтым доме быў адведзены пакой.

Летам 1920 года Таццяна Ільінічна ездзіла да бацькі ў Фінляндыю і вярнулася адтуль у жніўні. Мясцовыя ўлады, жадаючы зрабіць прыемнае загадчыцы школы, вырашылі да яе прыезду падрыхтаваць памяшканне і загадалі пабяліць яго, за выключэннем замкнёнага пакоя Таццяны Ільінічны. Распараджэнне было выканана найлепшым чынам. Калі Таццяна Ільінічна, вярнуўшыся, убачыла пабелены былы рэпінскі пакой, горка заплакала. Што здарылася? Таццяна Ільінічна расказала мне аб прычыне слёз. /У куце пакоя стаяў камін. Ілья Яфімавіч у цэнтры яго клеевай фарбай намаляваў у профіль партрэты Напалеона I і Аляксандра I. Ад каміна па ўсіх сценах у выглядзе бардзюра шырынёй каля 50 сантыметраў рукой Рэпіна адлюстраваны падзеі Айчыннай вайны 1812 года. Гэта зусім невядомая кампазіцыя вялікага рускага мастака... была беззваротна знішчана».

# НОВЫЯ ПОСПЕХІ

***Да 75-годдзя Віцебскай гімназіі.
Удзел у стварэнні царкоўна-археалагічнага музея.
«Дзвінскія або Барысавы камяні».
«Рака Заходняя Дзвіна».
«Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі
Дзісненскага і Вілейскага паветаў
Віленскай губерні»***

1 верасня 1883 года споўнілася 75 гадоў з дня адкрыцця віцебскай мужчынскай губернскай гімназіі, створанай на аснове існуючага з 1796 года народнага вучылішча. Яе выхаванец, а пасля і выкладчык, А. Сапуноў, вядома, не мог не адгукнуцца на гэту прыкметную падзею. Так узнікла задумка стварыць кнігу аб навучальнай установе. Аляксей Парфенавіч вывучыў архівы Віленскай навучальнай акругі, гімназіі, прагледзеў усе выданні Міністэрства народнай асветы. У выніку ў 1884 годзе ў друкарні губернскага праўлення была надрукавана даволі аб'ёмная (больш як 340 старонак) «Гістарычная запіска 75-годдзя віцебскай гімназіі».

Яе ўмоўна можна падзяліць на тры раздзелы. У першым даецца гістарычны агляд стану народнай адукацыі ў горадзе, для чаго аўтар выкарыстоўвае дакументальныя матэрыялы, статуты, справаздачы рэвізораў. У адной з іх сустракаем: «Большая частка вучняў Віцебскага вучылішча паказалі сапраўды выдатныя і пахвальныя поспехі, якія нельга назваць інакш, як толькі плёнам надзвычайнай стараннасці і працы настаўніцкай, злучаных з навуковымі ведамі і здольнасцямі; нават пасрэдных вучняў не аказалася...» Сярод адзначаных былі будучы дзекабрыст Іван Гарбачэўскі і яго сястра Ганна. «Як свядома, як разумна, з якім уменнем расказвала яна гісторыю пры поўным

ведании і месца на карце,— пісалася пра яе,— як спраўна рашала задачы па вышэйшай арыфметыцы і алгебры, даказвала матэматычныя фігуры, адказвала на пытанні па матэматычнай геаграфіі».

У раздзеле «Статыстычныя звесткі» Аляксей Парфенавіч змясціў прозвішчы выкладчыкаў навучальнай установы за ўвесь час яе існавания і спіс усіх вучняў, якія закончылі курс гімназіі. «Кожнаму зразумела, колькі тут каштоўных падрабязнасцей для былых выхаванцаў нашай гімназіі, для якіх успаміны аб лепшых днях маладосці, аб моцнай дружбе, аб сур'ёзных самастойных занятках любімымі прадметамі, аб дарагіх сябрах юнацтва, настаўніках-педагогах, давер якіх і павага да асобы вучня абуджалі ў юнаках лепшыя інстынкты чалавечай прыроды»,— пісаў у рэцэнзіі на «Гістарычную запіску» выпускнік гэтай навучальнай установы і першы біёграф А. Сапунова Ул. Стукаліч. Гэтая частка кнігі мае вялікае практычнае значэнне і да нашага часу, бо нідзе больш нельга знайсці такіх поўных звестак пра людзей, звязаных з віцебскай гімназіяй за 1808—1883 гады.

Змест трэцяга раздзела, які займае больш як палову аб'ёму выдання, склалі заўвагі і дадаткі. Яны, як і ў «Віцебскай даўніне», маюць самастойнае значэнне.

У 1886 годзе ў Віцебск прыехаў прызначаны інспектарам народных вучылішчаў губерні вядомы беларускі этнограф, фалькларыст і гісторык Еўдакім Раманавіч Раманаў (1855—1922). Яго з'яўленне ў горадзе было з радасцю сустрэта Сапуновым. У іх знайшлося шмат агульных інтарэсаў. Галоўны стваральнік беларускага аддзела на Маскоўскай этнаграфічнай выставе 1892 года, Е. Раманаў прыцягнуў да гэтай справы і Аляксея Парфенавіча. Разам папрацавалі гісторыкі і над стварэннем у Віцебску царкоўнага археалагічнага музея. Ініцыятыва належала Е. Раманаву. У ліпені 1892 года ў спецыяльнай запісцы архіепіскапу Полац-

каму і Віцебскаму ён пісаў: «У многіх храмах... епархіі ёсць помнікі царкоўнай даўніны, што нярэдка ўяўляюць не толькі мясцовую, але і агульную царкоўна-археалагічную цікавасць і таму заслугоўваюць дбайнага захавання ад знішчэння часам і нявопытнасцю асоб, якім даверана ахоўваць іх. У ліку гэтых помнікаў, як мне вядома, старадаўняе адзенне, палатнянае альбо шарачковае, а то і з выдатных узораў парчы і шоўку; драўляныя і алавяныя пацíры, дыскасы, блюды, свечачнікі, часта са свяшчэннымі выявамі або рэдкім арнаментам, разным і жывапісным; старадаўнія плашчаніцы, старадрукаваныя і рукапісныя набажэнскія кнігі; старадаўнія планы неіснуючых у цяперашні час храмаў; старажытныя званы, прадметы царкоўнага ужытку, лубачныя вянцы і г. д.

У наш час прадметы гэтыя ўжо не выкарыстоўваюцца пры богаслужэннях і ў большасці сваёй марна буцвеюць у кладоўках, у вежах званіц і нават у паветках, без належнай пашаны і беражлівасці».

Прапанову Е. Раманава горача падтрымаў і А. Сапуноў. Удвух ім было лягчэй перакапаць царкоўныя ўлады ў неабходнасці стварэння музея. І ў хуткім часе пад яго была выдзелена вялікая і даволі прасторная зала на другім паверсе архірэйскага дома, што знаходзіўся побач з Мікалаеўскім кафедральным саборам. Памяшканне адрамантавалі, набылі неабходную мэблю. Членамі-заснавальнікамі сталі Е. Раманаў, А. Сапуноў і святар В. Гаворскі. Менавіта на іх плечы лёг асноўны цяжар усёй арганізацыйнай работы. Першыя двое абследавалі ўсе гарадскія цэрквы і падабралі прадметы, непрыдатныя да бягучага царкоўнага ўжытку, але патрэбныя для экспазіцыі. Кожны з заснавальнікаў зрабіў і асабісты ўклад. Е. Раманаў ахвяраваў узоры старадаўніх тканін, абразкі-складні, крыжыкі, царкоўнае начынне. А. Сапуноў — старажытную грамату на пергаменце і дзве друкаваныя, 22 фатагра-



*Сховішча даўніны (злева ад сабора)*

фічныя вывы мясцовых цэркваў, партрэты некаторых царкоўных дзеячаў Віцебшчыны, медаль у гонар уз'яднання уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Папаўняўся музей цікавымі экспанатамі са шматлікіх іншых храмаў губерні, а таксама дарамі асобных грамадзян. Да канца першага года існавання царкоўна-археалагічнага музея ён налічваў амаль 170 прадметаў (царкоўнае адзенне і рэчы, манеты, медалі, абразы, драўляныя статуі, старажытныя дакументы, рукапісныя і друкаваныя кнігі, ордэны, знакі і г. д.). У 1898 годзе фонды музея выраслі да 315 адзінак, а праз год — да 800.

У студзені 1895 года Е. Раманава перавялі па службе ў Гродзенскую губерню. Пасля гэтага для загадвання сховішчам старажытнасцей быў створаны спецыяльны камітэт, у які акрамя Аляксея Парфенавіча ўвайшлі вядомыя вучоныя: гісторык Д. Даўгяла, этнограф і фалькларыст М. Нікіфароўскі. Грамадская работа А. Сапунова ў музеі працягвалася некалькі гадоў, да яго ад'езду ў Маскву.

У 1890 годзе ў старажытнай сталіцы Расіі павінен быў адбыцца VIII Археалагічны з'езд. Адно з пытанняў, якое мелася на ім разглядзець, было звязана з Віцебшчынай.

Здаўна ў рэчышчы Заходняй Дзвіны ляжалі велізарныя валуны з высечанымі на іх шасціканечнымі крыжамі і аднолькавымі надпісамі:— «Г(оспод)и, помози рабу своему Борису». Аб іх паходжанні існавалі супярэчлівыя меркаванні, што і прыцягнула да іх увагу вучоных. Рыхтуючыся да выступлення на з'ездзе, А. Сапуноў сабраў вялікі, цікавы матэрыял. Аднак, не чакаючы адкрыцця дыскусіі, ён выдаў у Віцебску кнігу пад назвай «Двинские или Борисовы камни».

У аснову свайго даследавання Аляксей Парфенавіч паклаў упамінанне аб гэтых помніках эпіграфікі ў «Хроніцы» Стрыйкоўскага і артыкуле Плятэра ў часо-

пісе «Rubon» за 1842 год. Стрыйкоўскі расказаў аб існаванні двух камянёў — у 1,5 кіламетры ад Дзісны і ў 11 кіламетрах ад Полацка, Плятэр дае апісанне ўжо чатырох і суправаджае яго малюнкамі. Спыняючыся на артыкуле апошняга, А. Сапуноў ацэньвае яго як больш дасканалы і поўны. У той жа час адзначае, што «хоць, без сумнення, граф Плятэр сам асабіста бачыў усе апісваемыя ім камяні, але... намаляваў іх пазней па памяці, альбо ўсё ж не зусім уважліва прачытаў надпісы на іх, толькі прадстаўленыя ім малюнкі і надпісы не зусім дакладныя». А Сапуноў сцвярджаў гэта так пераканана, бо сам уважліва абследаваў валуны.

Закрануў ён у сваёй кнізе і артыкул Е. Раманава ў «Працах І Археалагічнага з'езда», які ўтрымліваў інфармацыю пра невядомы на той час камень у вёсцы Высокі Гарадзец Сенненскага павету, а таксама прывёў малавядомую перапіску генерал-інтэнданта 1-й арміі Е. Канкрына з канцлерам М. Румянцавым. З яе вынікае, што ў 1818 годзе ў час ачысткі Заходняй Дзвіны былі выяўлены тры вялікія, таксама невядомыя камяні з надпісамі і малюнкамі. Два з іх цалкам знішчаны, а трэці часткова пашкоджаны.

Далей А. Сапуноў даў апісанне чатырох помнікаў, што захаваліся да таго часу (указаў дакладныя памеры, пароду каменя, месца знаходжання, тэксты) і прапанаваў найбольш верагодную, на яго погляд, версію іх паходжання. Акрамя таго, гісторык упамянуў яшчэ пра два цікавыя камяні. Адзін з іх знаходзіўся за 5 вёрст ад Віцебска, каля вёскі Забежжа, другі, які называўся «Іясафатавым»,— у Віцебску. Ён ляжаў у Заходняй Дзвіне каля Успенскага сабора. Праўда, абодва яны — не Барысавы, паколькі надпісы на іх з'явіліся значна пазней.

А. Сапуноў падзяляў меркаванне Е. Канкрына наконт таго, што надпісы на Барысавых камянях зроб-

лены ў 1126 годзе. Ён зыходзіў з інфармацыі генерал-інтэнданта аб тым, што на адным з іх, знішчаным у 1818 годзе, была высечана менавіта гэта дата. Сучаснікі А. Сапунова пагадзіліся з ім.

Што ж тычыцца прычын, якія прымусілі нашых далёкіх продкаў высякаць на валунах надпісы, то на гэты конт існавала некалькі версій. А. Кіркор, напрыклад, сцвярджаў, што зроблена гэта з мэтай увекавечання памяці пра Барыса. Тышкевіч лічыў іх за пагранічныя знакі, а Стрыйкоўскі звязваў з імі будаўніцтва цэркваў Сафіі, а таксама Барыса і Глеба ў Полацку. Усе гэтыя версіі Аляксей Парфенавіч адхіліў як непераканаўчыя, спаслаўшыся на некалькі даволі важкіх абгрунтаванняў, і прапанаваў іншую — зрэшты, яна да нядаўняга часу лічылася найбольш верагоднай. Сутнасць яе такая: паколькі Заходняя Дзвіна спрадвеку шырока выкарыстоўвалася ў якасці гандлёвага шляху, то, жадаючы як-небудзь адхіліць няшчасці, што неслі гэтыя велізарныя камяні купцам і вандроўнікам, князь Барыс загадаў абясшкодзіць іх справай набожнай — высякчы крыжы і адпаведныя надпісы. «У той жа час гэтыя камяні павінны былі пераканаўча засведчыць і тое, што князі полацкія — адзіныя паўнаўладныя гаспадары гэтага важнага гандлёвага шляху»,— дадае Сапуноў. Сучаснікі Аляксея Парфенавіча ў большасці сваёй пагадзіліся з гэтым меркаваннем, хоць сам гісторык не лічыў яго адзіна правільным[7]. Варта зазначыць, што менавіта віцебскі вучоны ўпершыню назваў Дзвінскія камяні Барысавымі, як цяпер іх і называюць. Рэцэнзуючы кнігу А. Сапунова, Е. Раманаў пісаў: «Мэта... аўтара цалкам дасягнута, і навука не можа не быць яму ўдзячна за гэту працу».

Менавіта «Дзвінскія або Барысавы камяні» падштурхнулі гісторыка на стварэнне адной з самых вядомых яго кніг — «Рака Заходняя Дзвіна».

У той час многія буйныя еўрапейскія рэкі: Рэйн, Днепр, Волга — былі даволі падрабязна апісаны. А вось Заходняя Дзвіна, на берагах якой знаходзілася шмат буйных населеных пунктаў, усё яшчэ не знайшла свайго летапісца. Існавала толькі некалькі навуковых публікацый на рускай, польскай і французскай мовах. Летапісцам стаў А. Сапуноў.

Сваю кнігу ён пачаў падрабязным гісторыка-геаграфічным аглядам, паведаміўшы, што Заходняя Дзвіна пад назвай Рубон (Рудон) была вядома яшчэ старажытным грэкам — аб ёй у «Адысеі» ўпамінае Гамер. Аднак і гэта не самая старажытная назва. Яшчэ раней рака называлася Эрыданам. А пад назвай Дзвіна яна ўпершыню сустракаецца ў летапісе Нестара: «Днепр бо потече из Волковъскаго леса и потечеть на полъдне, а Двина ис того же лесе потечеть на полунощье и внидеть в море Варяжьское». У другой, трэцяй, пятай і шостай главах кнігі апісваюцца вытокі і прытокі ракі, каналы паміж Заходняй Дзвіной і іншымі рэкамі, парогі, мелі, камяні ў рэчышчы, расказваецца аб работах па ачыстцы і паглыбленні рэчышча. Тут жа дадзена характарыстыка дзвінскіх вод з падрабязнай інфармацыяй аб паводках і хуткасці цячэння, крыгаломах і замярзанні ракі. У чацвёртай прадстаўлен геалагічны нарыс берагоў, заснаваны на даследаваннях горнага інжынера М. Антонава. У сёмай расказваецца аб відах рыбы, якая вадзілася ў рацэ, і спосабах лоўлі яе. У восьмай главе апавядаецца пра тое, як выкарыстоўвалася Заходняя Дзвіна ў гандлёвых мэтах, а кароткія гістарычныя звесткі і нарысы аб населеных пунктах, размешчаных на берагах Дзвіны, складаюць змест дзевятай, па сутнасці, завяршаючай главы кнігі.

Разумеючы, што праца яго не пазбаўлена недахопаў, Аляксей Парфенавіч пісаў у прадмове: «Беднасць навуковых дапаможнікаў і адсутнасць папярэднікаў

не дазволілі мне, на жаль, выканаць узятую на сябе задачу з належнай шырынёй, у патрэбным для інтарэсаў справы аб'ёме і па загадзя намечанай праграме... Цалкам усведамляю, што праца мая многа губляе з-за няпоўнасці і адрывачнасці». Зрэшты, ні даволі памяркоўныя заўвагі рэцэнзентаў, ні самакрытычныя выказванні самога аўтара ні ў якім разе не прынізілі вартасцей кнігі. Выданне высока ацанілі не толькі ў Расіі, але і ў Англіі, Францыі, Германіі. «Перад намі новая грунтоўная праца пястомнага даследчыка заходнерускіх ускраін А. П. Сапунова»,— інфармуюць сваіх чытачоў «Московские новости». «Кніга п. Сапунова ўяўляе багаты ўклад у нашу бедную яшчэ гісторыка-геаграфічную літаратуру», — падтрымлівае іх «Сын Отечества». «Хоць аб Дзвіне пісалася ўжо і раней як з нашага (польскага), так і з рускага боку, патрэбна, аднак, прызнаць, што праца п. Сапунова, які ўжо здаўна карыстаецца заслужанай вядомасцю па іншых гістарычных даследаваннях яго,— самая шырокая і самая важная. Сабраў ён даволі многа цікавых і нават да нашага часу невядомых звестак аб гэтым прадмеце, умела іх апрацаваў, дадаў да іх удалыя малюнкі і стварыў такім чынам даволі добрае і павучальнае цэлае, за што трэба прынесці яму шчырую падзяку...»— пісаў львоўскі «Исторический ежеквартальник». Станоўчыя рэцэнзіі на «Раку Заходнюю Дзвіну» змясцілі таксама «Правительственный вестник», «Журнал Министерства народного просвещения», «Gazeta Warszawska», «Филологическая библиотека», «Русские ведомости».

# НА СЛУЖБЕ І Ў НАВУЦЫ

*Пераход на новую працу. З'яўленне новай кнігі. Пераезд у Маскву. Кнігі па архівазнаўству. Залаты Увараўскі медаль. Вяртанне ў Віцебск. «Помнікі часоў старажытных і навейшых у Віцебскай губерні». Удзел у падрыхтоўцы даведніка «Расія»*

20 лютага 1896 года памёр архіварыус Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў М. Вяроўкін. Больш дастойнай кандыдатуры на вакантную пасаду, чым Аляксей Парфенавіч, у Віцебску, зразумела, не было. І пасля нядоўгіх разважанняў А. Сапуноў пакідае гімназію, якой аддаў амаль 23 гады.

Не адчуваючы асаблівага прызвання да педагагічнай дзейнасці, ён усё ж імкнуўся даваць сваім вучням максімум таго, на што быў здольны, акуратна рыхтаваўся да кожнага ўрока. Але, нягледзячы на гэта, на педагагічнай ніве А. Сапуноў ніякіх асаблівых заслуг не меў і з агульнай настаўніцкай масы нічым не вылучаўся. Праўда, у 1878 годзе ён быў удастоены ордэна св. Станіслава III ступені, а праз чатыры гады — ордэна св. Анны III ступені. У 1887 і 1893 гадах яму ўручылі тыя ж узнагароды, але ўжо другой ступені. Паспяхова ішло і прысваенне чыноў — калежскага асэсара (1879), надворнага саветніка (1880), калежскага саветніка (1882), стацкага саветніка (1886). Аднак усё гэта было звычайнай з'явай і сведчыла не столькі аб здольнасцях і заслугах чалавека, колькі аб дбайных адносінах да службы і ўменні падтрымліваць добрыя адносіны з начальствам, якім у поўнай меры валодаў ветлівы і памяркоўны Аляксей Парфенавіч.

Праца ў гімназіі з кожным годам усё больш і больш не задавальняла Аляксея Парфенавіча. Утрымлівала толькі выслуга гадоў і магчымасць пасля атрымаць хоць сціплую, але пастаянную пенсію. А вабіла гісторыка зусім іншая справа. І менавіта ёй ён аддаваў увесь свой вольны час. Пасада архіварыуса, хоць і пагаршала і без таго не зайздроснае матэрыяльнае становішча А. Сапунова[8], затое давала магчымасць цалкам аддацца любімаму занятку і адкрывала перад ім вялікія магчымасці ў краязнаўстве. Была яшчэ адна прычына, якая падштурхнула Аляксея Парфенавіча пакінуць гімназію. Незадоўга да смерці М. Вяроўкіна, 22 студзеня 1896 года, было прынята рашэнне аб перадачы цэнтральнага архіва старажытных актаў з Міністэрства ўнутраных спраў у Міністэрства народнай асветы. Такім чынам, пераходзячы на новую работу, гісторык заставаўся ў тым самым ведамстве, якое гарантавала пасля 25-гадовай службы пенсійнае забеспячэнне. Сваю ролю, вядома ж, адыграла і тое, што ініцыятыва пераводу зыходзіла ад самога папячыцеля навучальнай акругі, а дырэктар гімназіі выдаў А. Сапунову бліскучую характарыстыку.

Першыя архівы на Віцебшчыне з'явіліся прыкладна ў XVI стагоддзі. У Статуце Вялікага княства Літоўскага (1588) прадпісвалася, «...каб у кожным павеце, у якім знаходзіцца земскі суд, і ў замку альбо ў палацы суддзя, падсудак і пісар земскі разам з шляхтаю і з усімі іншымі саслоўямі адшукалі або пабудавалі таксама памяшканні, дзе заўсёды, бяспечна ад усялякіх выпадковасцей, маглі захоўвацца земскія кнігі». Пасля далучэння беларускіх земляў да Расіі ўзніклі архівы новых дзяржаўных устаноў, арганізацый, багатыя ж зборы мінулых стагоддзяў часта аказваліся безгаспадарнымі, а нярэдка нават знішчаліся. Менавіта па гэтай прычыне ў 1852 годзе было прынята рашэнне аб адкрыцці цэнтральных архіваў

старажытных актаў у Вільні, Кіеве і Віцебску. У апошнім павінны былі захоўвацца дакументы XVI—XVIII стагоддзяў па Віцебскай і Магілёўскай губернях. Паступова ў горад на Дзвіне сталі звозіцца тысячы цікавых сведчанняў гісторыі: актавыя кнігі віцебскіх, полацкіх, аршанскіх і мсціслаўскіх судовых органаў, Віцебскага, Полацкага і Магілёўскага магістратаў, Крычаўскай і Ушацкай магдэбурыі, каралеўскія прывілеі, інвентары.

У пачатку 1858 года пад архіў выдзелілі памяшканне былога фарнага касцёла, але адкрыўся ён толькі праз пяць гадоў. Аднак стан самога будынка і дакументаў, якія ў ім захоўваліся, выклікаў занепакоенасць у кіраўніцтва навучальнай акругі. А. Сапунову, які толькі што прыступіў да выканання сваіх новых абавязкаў, было даручана перш-наперш правесці рамонт будынка, паклапаціцца аб захаванні фондаў. «Усе без выключэння актавыя кнігі прыведзены ў належны парадак, прычым выпраўлена вельмі нязначная колькасць пераплётаў (усяго 78), усе ж астатнія зроблены новыя, бо выправіць старыя аказалася немагчыма,— пісаў Аляксей Парфенавіч у справаздачы аб выкарыстанні выдаткаваных сродкаў.— Выгляд актавых кніг насіў відавочны адбітак прыкрых выпадковасцей і нядбайнага захавання. Большасць кніг знаходзіцца ў такім стане, што варты жалю. Ёсць кнігі, з полацкіх, па адной трэці абгарэлыя і з карашка і з абрэза; па іншых кнігах бачна, што яны моклі, у большасці ж пашкоджаны ад захавання ў сырым месцы і ад перавозкі ў 1812 годзе. Аршанскія кнігі ў самым мізэрным выглядзе: абарваныя, многія без пачатку, без канца, без шнура і пячаткі камісіі для праверкі актавых кніг, а таму страцілі ўсялякае юрыдычнае значэнне. Ніякай абрэзкі лістоў не рабілася, ўсе разарваныя і адарваныя лісты падклейваліся калькаю».

Камандзіраваны ў Віцебск папячыцелем Віленскай навучальнай акругі архіварыус Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў І. Спрогіс адзначаў, што зробленага па рамонту зусім недастаткова, што неабходна дадаткова летам ва ўсіх памяшканнях пафарбаваць падлогу, шафы, аконныя рамы, пабяліць сцены, зараўняць і заліць цэментам падлогу ў калідоры.

1896 год у навуковай дзейнасці А. Сапунова адзначаны выхадам у свет даволі аб'ёмнай працы (144 старонкі) «Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні», адной з нямногіх, якія не мелі адносін да Віцебшчыны. На вокладцы кнігі прозвішча аўтара не ўказана, а толькі пазначана, што гэта «выданне А. Сапунова і Ул. Друцкага-Любецкага». Хутчэй за ўсё, штал-майстар двара яго вялікасці князь Ул. Друцкі-Любецкі меў у Дзісненскім павеце маёнтак і быў ініцыятарам выдання і фінансаваў яго, а падрыхтаваў кнігу Аляксей Парфеновіч. Аб гэтым сведчыць у першую чаргу яе структура, якая вельмі нагадвае кнігу «Рака Заходняя Дзвіна» і іншыя працы Сапунова, а таксама стыль выкладання матэрыялу. У геаграфічным аглядзе Дзісненскага і Вілейскага паветаў асноўная ўвага ўдзелена галоўнай воднай артэрыі гэтых мясцін — рацэ Віліі. Даецца апісанне яе і расказваецца аб праектах каналаў паміж Дняпром і Заходняй Дзвіной, прыводзяцца звесткі аб балотах, геалагічнай будове, глебах, клімаце, фауне і флоры.

Асобныя главы «Матэрыялаў па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні» прысвечаны гісторыі паветаў са старажытнейшых часоў, «выдатным у гістарычных адносінах мясцінам». Змешчаны невялікія нарысы і даведкі аб буйных і дробных населеных пунктах — Дзісне, Глыбокім, Друі, Міёрах, Паставах, Шаркаўшчыне, Вілейцы, Ма-

ладзечне, Мядзелі і інш. У дадатках — тэксты 39 дакументаў XVI—XVIII стагоддзяў.

...Старажытнымі суднамі на Віліі былі віціны. Вось як іх апісвалі ў канцы XVIII стагоддзя: «Спосаб пабудовы і выгляд віціны вельмі нагадвае барку, з той толькі розніцай, што яна значна меншая ва ўсіх частках, а асабліва ў шырыні, а значыць, і грузу падымаць можа не столькі, як звычайныя расійскія баркі». Даўжыня віцін даходзіла да 15 аршын, а вышыня — да 2. Акрамя іх на Віліі плавалі стругі, ці баркі. Даўжыня іх складала да 25 сажняў. З Нёмана да Віліі хадзілі, ды і то не кожны год, невялікія марскія судны, вядомыя пад назвай прускіх ботаў ці батаў. Падобныя да галандскіх аднамачтавых суднаў, яны былі таксама двухмачтавымі альбо паўмачтавымі на карме. Даўжыня іх дасягала 10 сажняў, шырыня — да 2. Лайбы (лодкі) даўжынёй да 5 і шырынёй да 1 сажня перавозілі не больш як 160—200 пудоў груза.

У 1855 годзе граф Р. Тызенгаузен набыў два параходы. Вялікі — «Кейстут» — прызначаўся для Нёмана, малы — «Нерыс» — для Віліі. Апошні быў спушчаны на ваду ў наступным годзе і падняўся ўверх да Сасёнкі, адной з прыстаняў верхняй Віліі. На гэтым вопыт і скончыўся, паколькі плаванне было звязана з вялікімі цяжкасцямі. У далейшым «Нерыс» абслугоўваў лінію Вільня — Коўна»[9].

«Матэрыялы» былі багата ілюстраваны краявідамі населеных пунктаў, здымкамі помнікаў старажытнасці і архітэктуры, выявамі гербаў, картамі і планамі, факсіміле подпісаў польскіх каралёў.

Асноўнай думкай кнігі, якая яскрава прасочвалася і ў іншых працах А. Сапунова, было тое, што край гэты рускі, бо «са старажытных часоў уваходзіў у склад Полацкага княства». Пад паняццем «рускі край» ён меў на ўвазе Беларусь як частку рускай дзяржавы — у процівагу дамаганням Польшчы на беларускія зем-

лі. Пры гэтым аўтар спасылаецца яшчэ і на меркаванне А. Кіркора аб тым, што «Дзісненскі і Віленскі паветы, як у прыродных, так і ў этнаграфічных адносінах, па справядлівасці павінны быць аднесены да Беларускага Палесся».

Не паспелі закончыцца работы па рэстаўрацыі дакументаў і рамонту памяшкання архіва, як вясной 1897 года А. Сапуноў атрымаў прапанову ад упраўляючага Маскоўскай навучальнай акругі заняць пасаду памочніка інспектара студэнтаў Маскоўскага універсітэта. Напэўна, працы гісторыка, і перш за ўсё «Віцебская даўніна» і «Рака Заходняя Дзвіна», прынеслі яму не толькі шумны поспех, але і вядомасць у навуковым свеце. Зразумела, па службовай лесвіцы гэта было значнае павышэнне, ды і ў заробку істотная прыбаўка. Аднак усё ж не гэта адыграла галоўную ролю ў рашэнні Аляксея Парфенавіча перабрацца ў Маскву. Ён, які ніколі не імкнуўся да шумнага сталічнага жыцця, а наадварот, аддаваў перавагу адасобленасці і зацішнасці невялікіх правінцыяльных гарадоў, рашыўся-такі на пераезд перш за ўсё таму, што з'явілася магчымасць рэгулярна працаваць у багацейшых архівах і бібліятэках. Значныя перспектывы адкрываліся таксама ў навуковай дзейнасці. «Кожны, хто займаўся якой-небудзь навуковай працай у такім горадзе, як Віцебск, дзе няма ніякіх навуковых устаноў, добра ведае, у якім іншы раз бездапаможным становішчы аказваецца даследчык.— пісаў А. Сапуноў у прадмове да «Ракі Заходняй Дзвіны».— Дастаткова сказаць, што ў Віцебску, напрыклад, нельга знайсці поўнага экземпляра «Геаграфічнага слоўніка» Сямёнава, не кажучы ужо пра больш спецыяльныя і рэдкія».

Спадзяванні Аляксея Парфенавіча на больш актыўную навуковую дзейнасць у Маскве цалкам апраўдаліся. За чатыры гады (1898—1902) ён напісаў дзевяць работ, апублікаваных у Маскве, Віцебску, Магілёве.

Яшчэ пры падрыхтоўцы «Віцебскай даўніны» А. Сапунову давялося шмат папрацаваць у архіўных сховішчах Пецярбурга, Масквы, Вільні, Віцебска і Полацка. І ў прадмове да пятага тома гэтага зборніка («Кароткі нарыс гістарычных лёсаў Полацкай епархіі са старажытнейшых часоў да паловы XIX ст.») ён закрануў пытанне аб гісторыі архіва Полацкай духоўнай кансісторыі. Пазней быў сабраны дадатковы матэрыял па гэтай тэме. Аднак пераезд у Маскву перапыніў пачатую працу. На новым месцы Аляксей Парфенавіч вярнуўся да даследавання і ў 1898 годзе ў першым томе «Прац Археаграфічнай камісіі Маскоўскага археалагічнага таварыства» апублікаваў «Архіў Полацкай духоўнай кансісторыі».

Старэйшая частка гэтага сховішча ўтварылася з больш як пяці тысяч дакументаў канца XVI — пачатку XIX стагоддзя на рускай, польскай, лацінскай і італьянскай мовах. У навейшай — справы больш «маладыя», з 1796 года. Аляксей Парфенавіч апісаў сотні дакументаў. Яны згрупаваны тэматычна, і кожны мае свой нумар. Пры апісанні даецца тлумачэнне, на якой мове напісан дакумент, яго захаванасць, колькасць лістоў. Найбольш цікавыя з іх прыводзяцца цалкам альбо большай часткай. Прызначаная выключна для спецыялістаў, гэта праца Аляксея Парфенавіча выдадзена ў 1902 годзе ў Маскве таксама асобнай брашурай.

Працягваючы даследаванні па архіўнай тэматыцы, А. Сапуноў у другім томе «Прац Археаграфічнай камісіі» апублікаваў «Архівы ў гарадах Магілёўскай губерні і Мінску», якія ў 1902 годзе выйшлі самастойным выданнем. У канцы XIX стагоддзя ў Магілёве мелася шэсць архіваў — Епархіяльнага сховішча даўніны, брацкага манастыра, семінарыі, губернскага праўлення, статыстычнага камітэта і духоўнай кансісторыі. У кожным з іх захоўвалася нямала цікавых

дакументаў XVI—XIX стагоддзяў, часцей за ўсё маловядомых, а то і зусім невядомых. Расказваючы аб гісторыі стварэння таго ці іншага сховішча, Л. Сапуноў называе і найбольш каштоўнае, на яго погляд, што тут захоўваецца, — арыгіналы рукапісаў архіепіскапа Г. Каніскага, рукапіс «Гістарычныя звесткі аб царквах і манастырах у Полацку» (архіў Епархіяльнага сховішча даўніны), аўтографы М. Сматрыцкага, П. Магілы, епіскапа С. Косава (архіў брацкага манастыра), Станіслава-Аўгуста на пергаменце (архіў губернскага праўлення).

Мінск Аляксей Парфенавіч наведаў у 1897 годзе. Яго ўвагу прыцягнуў архіў Духоўскага манастыра. Там ў дзвюх папках захоўваліся дакументы Слуцкага манастыра 1517—1837 гадоў, а таксама старажытныя граматы і акты на лацінскай, рускай і польскай мовах, вопісы царкоўнай маёмасці, указы і маніфесты 1747—1826 гадоў, дакументы аб ваенных рэквізіцыях 1831 года, прыходна-расходныя кнігі і г. д. Гісторык агледзеў таксама і менш цікавыя сховішчы — статыстычнага камітэта і губернскага праўлення.

Маскоўскі перыяд жыцця і дзейнасці Аляксея Парфенавіча адзначаны і яшчэ адной важнай для яго падзеяй, якая сведчыла аб прызнанні яго вялікага аўтарытэту як вучонага.

У 1857 годзе адзін з выдатных рускіх археолагаў, старшыня Маскоўскага археалагічнага таварыства граф Аляксей Сяргеевіч Увараў (1828—1884) заснаваў у памяць пра бацьку, віднага дзеяча народнай асветы, міністра, прэзідэнта Расійскай акадэміі навук Сяргея Сямёнавіча Уварава (1786—1855) спецыяльную прэмію. Яна прысуджалася амаль штогод ад імя Акадэміі навук за вялікі ўклад у вывучэнне гістарычнага мінулага Расіі. Да 1898 года прэмія ўручалася 37 разоў, і на чарговую прэтэндавала праца нямецкага гісторыка Ф. фон Кейслера «Канец першапачатковага рускага

ўладарання ў Прыбалтыйскім краі ў XIII стагоддзі». Даць ёй навуковую ацэнку даручылі А. Сапунову.

Для Аляксея Парфенавіча тэма гэта была не новая. У сваіх пошуках і публікацыях ён неаднаразова звяртаўся да яе. Тым не менш, каб падрыхтаваць даволі аб'ёмную і глыбокую рэцэнзію, якая, зрэшты сама па сабе мае навуковае значэнне, давялося шмат папрацаваць. Аўтар даследаванняў прыйшоў да трох высноў. 1. Ступень залежнасці прыбалтыйскіх земляў ад рускіх была настолькі слабай, што само сабой напрошваецца пытанне: ці можна наогул гаварыць пра першапачатковае рускае ўладаранне. 2. Ва ўсіх іншых месцах панаванне немцаў было прызнана рускімі. У дадзеным выпадку яны (г. зн. рускія) самі адмовіліся ад усяго, чым калі-небудзь валодалі, і прымірыліся з заваяваннем краю немцамі. 3. Рускія не імкнуліся ўвесці тут хрысціянства. А. Сапуноў далёка не цалкам згаджаецца з імі і, выкарыстоўваючы хроніку Генрыха Латыша, Лаўрэнцьеўскі, Пскоўскі першы і другі, Ноўгарадскі першы і чацвёрты, Пераяслава-Суздальскі летапісы, працы К. Бястужава-Руміна, С. Салаўёва, Д. Іілавайскага, Н. Кастамарава, пераканаўча даказвае свой пункт гледжання. У той жа час рэцэнзент аддае належнае вучонаму, падкрэсліўшы, што ён «даўно ўжо і не без поспеху працуе над даследаваннем розных бакоў гэтага цікавага і важнага пытання». Падводзячы вынікі свайго аналізу, А. Сапуноў зазначае: «Павінен прызнаць яго (г. зн. аўтара.— *А. П.*) працаздольнасць і любоў да справы, а таксама дасканалае знаёмства з навейшымі, ва ўсякім разе нямецкімі, сачыненнямі... Нельга не адзначыць таксама рашучасці аўтара выдаць сваё сачыненне па-руску... Прызнаю працу п. Кейслера як дастойную Увараўскай прэміі».

За сваю рэцэнзію А. Сапуноў быў удастоены залатога Увараўскага медаля.

У 1901 годзе ў Віцебскім губернскім статыстычным

камітэце аказалася вакантнай пасада сакратара. Гэта навіна дайшла да Аляксея Парфенавіча, прымусіла яго зноў задумацца аб сваім будучым. Нягледзячы на даволі забяспечанае, насычанае цікавымі падзеямі і творчай працай маскоўскае жыццё, ён пастаянна сумаваў па родных мясцінах. Пасля спакойнага, правінцыяльнага Віцебска ў вялікай і шумлівай Маскве адчуваў сябе неяк няўтульна і адзінока. Увосень 1898 года споўнілася 25 гадоў службы гісторыка ў сістэме народнай асветы, што давала права на атрыманне пенсіі. Ужо тады А. Сапуноў мог пакінуць службу і вярнуцца ў Віцебск. Але ён заставаўся ў Маскве. Цяпер жа, калі ў родным горадзе аказалася вакансія, ды яшчэ ў такім надзвычай цікавым месцы, Аляксей Парфенавіч усё ж вырашыў пакінуць універсітэт і вярнуцца дадому.

Губернскія статыстычныя камітэты былі заснаваны ў Расіі на падставе рашэння Сената ад 28 студзеня 1835 года. У Віцебску ён быў створаны ў наступным годзе, але настолькі бяздзейнічаў, што, па словах Сапунова «забыта было нават аб існаванні самога камітэта». Толькі з канца 1850-х гадоў дзейнасць яго (дарэчы, нанава адкрытага) актывізавалася. Увесь штат складаўся з адзінага супрацоўніка — сакратара, у абавязкі якога ўваходзілі збор і абагульненне статыстычных звестак аб насельніцтве, прамысловасці, сельскай гаспадарцы, помніках старажытнасці.

Значная частка гэтых матэрыялаў з канца 1850-х і да пачатку 1860-х гадоў публікавалася ў «Памятных кніжках» — афіцыйным дзяржаўным выданні, якое выходзіла ў большасці губерняў. У Віцебску першая «Памятная кніжка» з'явілася ў 1860 годзе і з таго часу амаль штогод выдавалася да 1915 года. Складаліся такія кніжкі па-рознаму. Змест залежаў ад таленту, ведаў і майстэрства сакратара камітэта. Аднак было і шмат агульнага, абавязковага для ўсіх, па-

прыклад адрас-календары, у якіх пералічваліся губернскія, гарадскія і павятовыя дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, іх служачыя, звесткі аб адміністрацыйным падзеле, паштовых і тэлеграфных тарыфах, навуковых установах. Разнастайны краязнаўчы матэрыял прыводзіўся іншым разам у дадатках. Тэматыка матэрыялаў — самая розная: гісторыя, этнаграфія, археалогія, архітэктура, заводская і фабрычная прамысловасць, клімат, прыродныя багацці, жывёльны і раслінны свет, ахова здароўя, культура.

А. Сапуноў супрацоўнічаў са статыстычным камітэтам з самага пачатку сваёй навуковай дзейнасці, з 1882 года з'яўляўся яго сапраўдным членам. А за год да гэтага ў «Памятнай кніжцы» была апублікавана першая праца гісторыка аб віцебскіх замках. У наступныя сем гадоў тут было змешчана яшчэ некалькі артыкулаў Аляксея Парфенавіча — «Інфлянты. Гістарычныя лёсы краю, вядомага пад назвай польскіх інфлянтаў» (1887), «Некалькі слоў аб яўрэйскім насельніцтве г. Віцебска» (1883), «Гістарычны і статыстычны нарыс г. Віцебска» (1885), «Апісанне Невельскага і Себежскага паветаў Віцебскай губерні ў гістарычных, геаграфічных, сельскагаспадарчых, статыстычных і этнаграфічных адносінах» (1888).

Хутка асвоіўшыся на новым месцы, Аляксей Парфенавіч прыступіў да завяршэння пачатай яшчэ ў Маскве брашуры «Губернскі палац у Віцебску». Яна прысвечана аднаму з найбольш цікавых помнікаў архітэктуры XVIII—XIX стагоддзяў, які ў горадзе часцей за ўсё называлі губернатарскім домам. Зрэшты, гэты будынак цікавіў гісторыка пераважна як гістарычны помнік.

У 1796 годзе Віцебск стаў цэнтрам Беларускай губерні. Для размяшчэння генерал-губернатара неабходна было спецыяльнае памяшканне. Вырашылі не будаваць яго, а выкарыстаць для гэтай мэты будынак

дваранскага сходу. А. Сапуноў нідзе не ўказвае дату яго набудовы. На думку вядомага беларускага гісторыка архітэктуры Ул. Чантурыя, палац узведзены ў 60—70-х гадах XVIII стагоддзя. У пачатку наступнага стагоддзя да існуючага трохпавярховага корпуса ўздоўж Заходняй Дзвіны была зроблена вялікая прыбудова. І з таго часу (1808) да 1854 года тут жылі генерал-губернатары, а з 1854 па 1917 год — віцебскія грамадзянскія губернатары.

Коратка расказаўшы гісторыю будынка, аўтар закрануў некаторыя цікавыя старонкі мінулага, якія так альбо інакш былі звязаны з ім: аб Айчыннай вайне 1812 года, «польскай смуце» 1831 года, смерці вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Прывёў спісы ваенных і грамадзянскіх губернатараў, некаторым з іх даў кароткія характарыстыкі. Падзеям вайны 1812 года гісторык прысвяціў амаль трэцюю частку ўсёй брашуры, але сам тэкст не новы. Ён нагадвае сабой скарочаны варыянт адпаведнай главы гістарычнага нарыса першага тома «Віцебскай даўніны». Сціпла апавядае аўтар пра падзеі 1831 года, аднак прыводзіць пры гэтым надзвычай цікавы і малавядомы факт. «У Віцебскім губернскім архіве,— піша ён,— захоўваецца вельмі цікавая «справа аб адкрыцці бунтарскіх польскіх песень». Да адказнасці прыцягваліся настаўнік гімназіі Шапялевіч і вучні гімназіі Шаняўскі, Якавіцкі, Гірш Брам і студэнт маскоўскага універсітэта (былы вучань Віцебскай гімназіі) Заблоцкі... Заблоцкі, па яго словах, быў у сяброўскіх адносінах са студэнтамі Маскоўскага універсітэта Вісарыёнам Бялінскім і Міхаілам Чысцяковым». Далей А. Сапуноў прыводзіць водгукі аб апошніх напячыцелях Маскоўскага універсітэта і паведамляе аб пакаранні, якое спасцігла іх.

Міжусобная барацьба 1831 года запомнілася віцяблянам яшчэ і смерцю ў горадзе вялікага князя Канстанціна Паўлавіча. Як толькі ў канцы 1830 года ў Цар-

стве Польскім успыхнула паўстанне, Канстанцін Паўлавіч па загаду свайго брата імператара Мікалая І выехаў з Варшавы ў Віцебск, дзе пасяліўся ў губернатарскім палацы. Аднак у чэрвені 1831 года ў горадзе пачалася эпідэмія халеры, ахвярай якой і стаў вялікі князь. Пасля літургіі і паніхіды ва Успенскім саборы яго цела перавезлі ў Пецярбург і пахавалі ў магільным склепе рускіх цароў у саборы Петрапаўлаўскай крэпасці.

Першай працай, падрыхтаванай Аляксеем Парфенавічам пасля вяртання ў Віцебск, стала кніга «Помнікі часоў старажытных і навейшых у Віцебскай губерні», выдадзеная статыстычным камітэтам у 1903 годзе. Штуршком для яе напісання паслужыў цыркуляр міністра ўнутраных спраў да губернатараў, граданачальнікаў і оберпаліцмайстраў, у якім звярталася ўвага на адсутнасць нагляду за захаваннем «старажытных замкаў, крэпасцей, помнікаў і іншых будынкаў старадаўнасці». Лічачы неабходным сабраць звесткі аб усіх існуючых у краіне помніках старажытнасці, а таксама аб значных збудаваннях апошняга часу, міністр загадаў скласці і прадставіць дакладны спіс такіх помнікаў з падрабязным іх апісаннем і ўказаннем, у чыім падпарадкаванні знаходзяцца, на якія сродкі падтрымліваюцца, ці адпускаюцца на ўтрыманне іх у спраўным стане сродкі казны і ў якім памеры, ці захоўваюцца яны ў належным стане і калі не, то прыблізна якая сума патрабуецца на іх выпраўленне, з дадаткам па магчымасці малюнкаў, планаў або фатаграфічных здымкаў гэтых помнікаў. Падрыхтаваўшы неабходныя звесткі, А. Сапуноў вырашыў не абмяжоўвацца справаздачай, а напісаць кнігу, справядліва лічачы, што яна знойдзе вялікую цікавасць у насельніцтва.

У першай главе А. Сапуноў апісаў найбольш старажытныя храмы Полацка-Віцебскага краю — Спаскую

царкву Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку і Благавешчанскую царкву ў Віцебску (абедзве пабудаваны ў XII стагоддзі). У другую ўвайшлі храмы-помнікі ў вёсцы Іванава каля Невеля, дзе быў пахаваны прах вядомага рускага военачальніка, былога беларускага ваеннага губернатара І. Міхельсона, і ў вёсцы Кульнёва (Ільзенберг) паблізу Рэжыцы (зараз Рэзекне, Латвія), дзе пахаваны герой Айчыннай вайны 1812 года Я. Кульнёў. У трэцяй главе апавядаецца аб помніках у гонар Айчыннай вайны 1812 года ў Полацку і Клясціцах, на месцы гібелі Я. Кульнёва ў Сівошыне і ў гонар знаходжання Аляксандра І у Бешанковічах у верасні 1821 года. «Барысавы камяні» і іншыя помнікі эпіграфікі ўвайшлі ў чацвёртую главу, а змест пятай складае апісанне руін замкаў Дзінабурга, Рэжыцы, Люціна і іншых мясцін. Завяршае кнігу агляд капліц у гонар розных падзей у Віцебску, Полацку, Усвятах, Гарадку, Невелі, Рэжыцы і Дзвінску. Кніга ілюстравана 15 фотаздымкамі, 9 планамі і 10 малюнкамі найбольш цікавых помнікаў, якія і да нашага часу выклікаюць цікавасць не толькі ў шматлікіх аматараў старажытнасці, але і ў гісторыкаў, архітэктараў, рэстаўратараў. У рэцэнзіі на «Помнікі часоў старажытных і навейшых у Віцебскай губерні» газета «Северо-Западный край» пісала: «Нельга не вітаць падобнае выданне... Працы п. Сапунова, якія маюць несумненнае навуковае значэнне і цікавасць для шырокай публікі, ужо дастаткова вядомыя для таго, каб аддаць належнае яго новай рабоце».

Важнай вехай у навуковай дзейнасці Аляксея Парфенавіча і адначасова прызнаннем яго заслуг у вывучэнні гістарычнага мінулага Полацка-Віцебскага краю стаў удзел яго ў падрыхтоўцы дзевятага тома папулярнага даведніка «Расія. Поўнае гістарычнае апісанне нашай айчыны. Настольная і дарожная кніга для рускіх людзей» (Спб., 1905), што выходзіў пад

агульнай рэдакцыяй праслаўленага В. Сямёнава-Цянь-Шанскага. Складаннем яго займаўся брат падарожніка, віцэ-старшыня Рускага геаграфічнага таварыства П. Сямёнаў і акадэмік Ул. Ламанскі, які вучыў А. Сапунова ў Пецярбургскім універсітэце. Уладзімір Іванавіч уважліва сачыў за працамі свайго выхаванца, даваў ім высокую адзнаку і прыцягнуў віцебскага гісторыка да работы яшчэ і па той прычыне, што кнігі яго шмат у чым прадугадалі «Расію». Разам з Аляксеем Парфенавічам дзевяты том, дзе апавядалася пра Смаленскую, Віцебскую, Магілёўскую і Мінскую губерні, рыхтавалі В. Сямёнаў, М. Доўнар-Запольскі, Д. Шэндрык і А. Кабакоў. У сааўтарстве з двумя апошнімі віцяблянін напісаў сёмую главу — «Шляхі зносін» — раздзела «Насельніцтва» і ўсе тры главы раздзела «Выдатныя населеныя месцы і мясцовасці», якія склалі амаль палову гэтай аб'ёмнай кнігі. У першым з іх даецца гістарычны нарыс шляхоў зносін і расказваецца аб тагачасных водных шляхах, грунтовых і шасейных дарогах, а таксама чыгунках, рэках, тыпах грузавых драўляных суднаў, аб суднабудаванні і параходстве, якія тады толькі нараджаліся. Узяўшы за аснову сетку чыгуначных дарог, аўтары ў другой главе прыводзяць гістарычныя і статыстычныя звесткі пра буйнейшыя населеныя пункты, даюць апісанне гарадоў, мястэчак, найбольш буйных вёсак. У кнізе змешчана вялікая колькасць фатаграфій гарадоў і прыроды, цікавых помнікаў архітэктуры і гістарычных мясцін, старажытных планаў, карт, дыяграм.

«Расія» адразу стала вельмі папулярнай і да нашага часу карыстаецца вялікім попытам. Поспех выдання разам з галоўнымі яго складальнікамі справядліва падзяліў і Аляксей Парфенавіч.

Вынікам першых гадоў працы А. Сапунова ў статыстычным камітэце сталі некалькі афіцыйных выданняў: зборнікі «Спіс населеных месц Віцебскай губерні»

(1906) і «Землеваладанне і землеўладальнікі Віцебскай губерні ў 1905 годзе» (1908), а таксама тры выданні «Памятнай кніжкі Віцебскай губерні» на 1903, 1904 і 1905 гады, у якіх акрамя традыцыйных матэрыялаў апублікаваны ў выглядзе дадаткаў даследаванні Аляксея Парфенавіча — «Кустарная прамысловасць у Віцебскай губерні» (1904), «Перыядычны друк у Віцебскай губерні», «План горада Віцебска» (1905).

Ініцыятыва выдання зборніка «Спіс населеных месц Віцебскай губерні» зыходзіла ад А. Сапунова. Справа ў тым, што не толькі ў розных публікацыях, але нават у афіцыйна выдадзеных картах Генеральнага штаба арміі назвы некаторых населеных пунктаў губерні скажаліся. А выпушчаны віцебскай друкарняй два дзесяцігоддзі назад «Алфавітны спіс павятовым гарадам, мястэчкам, сёлам і вёскам», па-першае, быў складзены крайне неахайна і няпоўна і, па-другое, да таго часу паспеў ужо стаць бібліяграфічнай рэдкасцю.

Для падрыхтоўкі новага ўказальніка населеных пунктаў Віцебшчыны губернскі статыстычны камітэт у асобе А. Сапунова разаслаў запытанні валасным праўленням і, як толькі атрымаў ад іх неабходныя звесткі, прыступіў да складання «Спіса». Ён выйшаў у 1907 годзе ў Віцебску і ўтрымліваў назвы 24 734 населеных пунктаў, асобныя два спісы населеных пунктаў з колькасцю жыхароў ад 500 да 2000 і больш, спіс азёр з указаннем іх плошчы, колькасць жыхароў губерні па веравызнанні, саслоўю, роднай мове, адукаванасці, гістарычныя даведкі аб гарадах і статыстычныя звесткі аб іх.

Сярод гэтага матэрыялу ёсць нямала цікавага. Напрыклад, на 1 студзеня 1905 года агульная плошча Віцебскай губерні складала 39 686 квадратных вёрст, з якіх на долю азёр прыходзілася 1039. Усяго ж іх налічвалася 2509. Найбольшая колькасць — у Лепель-

скім павеце (349). А вось цікавыя статыстычныя звесткі аб Віцебску. У ім у 1905 годзе налічваліся 304 вуліцы і завулкі (у тым ліку 85 брукаваных і 11 асфальтаваных), 32 царквы (у тым ліку 10 хатніх), 2 касцёлы, 1 кірха, 3 сінагогі, 56 малітоўных дамоў, 16 могілак, 8492 дамы, у тым ліку 974 каменныя, 7225 драўляных і 293 змешаныя, 10 гасцініц, 14 мэбляваных пакояў, 3 рэстараны, 13 харчэўняў, 3 тракціры, 18 заезных дамоў, 14 піўных крам, 4 чайныя, 65 фабрык і заводаў (825 рабочых), 794 рамесныя майстэрні (5760 рабочых), 223 легкавыя і 309 ламавых фурманаў, 41 урач, 4 ветэрынары, 41 навучальная ўстанова, 1 тэатр.

Своеасаблівым дапаўненнем да «Спіса» з'явіўся зборнік «Землеваладанне і землеўладальнікі Віцебскай губерні ў 1905 годзе». На гэты раз ініцыятыва выдання належала Цэнтральнаму статыстычнаму камітэту. У чэрвені 1905 года па ўсіх паветах і валасцях былі разасланы запыты з просьбай «сабраць дакладныя сучасныя звесткі аб размеркаванні землеваладання ў Віцебскай губерні», а таксама аб землеўладальніках і велічыні зямельных угоддзяў. Не абмяжоўваючыся сухімі лічбамі, табліцамі і спісамі, А. Сапуноў дапоўніў іх змястоўнымі каментарыямі ў спецыяльнай главе «Важнейшыя высновы».

# ПАЛІТЫЧНАЯ І ГРАМАДСКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ

## *Праца ў Дзяржаўнай думе. Стварэнне вучонай архіўнай камісіі і аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута*

3 ліпеня 1907 года быў апублікаваны царскі маніфест аб роспуску Дзяржаўнай думы другога склікання і змяненнях у Палажэнні аб выбарах, якія рэзка павялічвалі колькасць выбаршчыкаў ад памешчыкаў і буйной буржуазіі. Пасля падаўлення першай рускай рэвалюцыі рэакцыя паступова набірала сілу.

У час перадвыбарнай кампаніі па ўсёй Расіі правыя і блізкія да іх па духу партыі не спыняліся ні перад якімі мерамі грубага паліцэйскага самавольства, гвалту, здзекавання над выбаршчыкамі і іх воляй. Паставіўшы сваёй мэтай любой цаной атрымаць такі састаў новай думы, які ёй быў патрэбен, рэакцыя ажыццяўляла свае планы.

У Віцебску бурную дзейнасць разгарнулі камітэты «Саюза рускага народа» і «Саюза 17 кастрычніка». У іх руках апынуліся ўсе мясцовыя газеты, якія актыўна агітавалі за сваіх кандыдатаў. Улічваючы вопыт папярэдніх выбараў, імкнулася мець у думе свайго прадстаўніка і Полацкая епархія. Ён, з аднаго боку, павінен быў безагаворачна падтрымліваць інтарэсы царквы, а з другога — быць папулярным і паважаным у народзе. Гэтыя якасці ў поўнай меры былі ўласцівы А. Сапунову. Будучы ўсё сваё жыццё чалавекам вельмі рэлігійным, ён падтрымліваў палітычны курс праваслаўнай царквы, што разам з вялікім укладам Аляксея Парфенавіча ў вывучэнне мясцовай гісторыі рабіла яго імя папулярным у розных пластах грамадства. Простае паходжанне, сціпласць у значнай ступені па-

вышалі яго шанцы на выбарах. Разлік аказаўся правільным: Сапуноў стаў адным з шасці дэпутатаў ад Віцебскай губерні ў думе трэцяга склікання.

У сталіцу Аляксей Парфенавіч прыехаў у канцы кастрычніка 1907 года. Спыніўся на кватэры ў прысяжнага паверанага Ул. Пціцына, веліжца па паходжанні, з якім быў ужо даўно блізка знаёмы. Менавіта ў яго гісторык жыў на працягу ўсяго перыяду знаходжання ў сталіцы.

Да новай для сябе справы Аляксей Парфенавіч ставіўся з пачуццём вялікай адказнасці, не дазваляў сабе без аб'ектыўных прычын прапускаць пасяджэнні. Ён, які ніколі не належаў да якой-небудзь палітычнай партыі, цяпер цалкам аддаўся палітычнай дзейнасці, падтрымліваў акцябрыстаў, прытым правае, найбольш рэакцыйнае іх крыло. Перакананы манархіст, А. Сапуноў не іграў, ды і не мог іграць колькі-небудзь прыкметную ролю ў партыі. Аднак удзел у яе дзейнасці на многія гады, нават дзесяцігоддзі, паклаў на яго імя пячатку забыцця і не заўсёды справядлівай крытыкі. Сам жа дэпутат шчыра верыў, што яго пазіцыя служыць інтарэсам народа.

Аляксей Парфенавіч пяць разоў выступаў на пасяджэннях думы. Першае і самае працяглае з іх адбылося 17 студзеня 1908 года і прысвячалася законапраекту аб урэгуляванні арэнднага пытання, падрыхтаванага групай дэпутатаў Віцебскай губерні. Яно было вынесена на абмеркаванне па ініцыятыве Ул. Пціцына. Менавіта ён напісаў, мяркуючы па ўсяму, і тэкст выступлення Аляксея Парфенавіча. У аснову яго лягла брашура юрыста «Законапраект аб скасаванні на Беларусі апошніх рэшткаў чыншавага валодання і права і выраджанага з яго гарадскога і мястэчковага дамовага арэнднага валодання і тлумачальная запіска да гэтага законапраекта» (Віцебск, 1907). А. Сапуноў, які падзяляў яго погляды, ахвотна згадзіўся выступіць у

падтрымку законапраекта. У сваёй прамове ён адзначыў, што яшчэ Літоўскі статут прызнаваў так званае чыншавае права. Не вельмі звыклае цяпер слова «чынш» перакладаецца з нямецкай мовы як «аброк». А сутнасць самога закона зводзілася да вуснага, часцей за ўсё не афармленага ніякімі дакументамі пагаднення паміж землеўладальнікам і пасяленцам аб карыстанні зямлёй. Яно прадугледжвала права патомнага валодання і распараджэння ўчасткамі, права закладу, продажу і перадачы іх у спадчыну. І ўсе адносіны ўладальніка да ўласнасці абмяжоўваліся толькі абавязкам першага плаціць штогод на вечныя часы ўстаноўленую плату, так званы чынш. Аднак з цягам часу сам дух гэтых пагадненняў змяніўся. Землеўладальнікі сталі павялічваць памеры чыншу, патрабавалі перыядычнага заключэння новых дагавораў, адмаўлялі землекарыстальнікам у праве ўзводзіць тыя або іншыя пабудовы. Паступова само паняцце «чыншанства» сталі разумець як арэндаванне зямлі, што было ў корані няправільна. Адсутнасць неабходных дакументаў толькі ўскладняла вырашэнне канфліктных з пункту гледжання закона сітуацый. Стала зразумела, што існуючае на Беларусі і ў заходніх губернях чыншавае права, якое прыйшло з Польшчы шмат стагоддзяў таму назад, ужо не толькі састарэла, але і, нягледзячы на тое што юрыдычна было ўзаконена, проста не ўпісвалася ў дзеючую ў пачатку XX стагоддзя юрыдычную практыку.

Выступленне А. Сапунова працягвалася больш за 45 хвілін і было не толькі бездакорным у лагічных адносінах, але і дастаткова юрыдычна абгрунтаваным, утрымлівала пераканаўчыя прыклады з практыкі. Большасць членаў думы тым не менш выступілі супраць прапановы аб выкупе арэндуемых участкаў, бо бачылі ў гэтым то прымусовае адчужэнне, то сапраўдную экспрапрыяцыю. У перыядычным друку, які сачыў

за ходам дыскусіі, таксама з'явіліся негатыўныя водгукі. Дума адклала рашэнне гэтага пытання і вярнулася да яго толькі ў сакавіку 1911 года пры абмеркаванні законапраекта «Аб забудове».

2 красавіка 1908 года Аляксей Парфенавіч у чарговы раз узняўся на трыбуну. Падтрымліваючы прапанову ўрада «таму, што яна ўсё ж такі ўносіць некаторы парадак у той хаос, што пануе зараз у арэндным пытанні», ён тлумачыць сваю раней выказаную пазіцыю, падкрэсліўшы, што «арэндныя адносіны ў нас, на Беларусі, маюць іншы парадак, што яны, у аснове сваёй, істотна адрозніваюцца ад арэндных адносін у іншых мясцовасцях»[10].

Даволі цікавая з пазіцыі сённяшняга часу папраўка да артыкула 5 законапраекта, якую ўнёс Аляксей Парфенавіч 12 ліпеня 1908 года. Сутнасць прапановы Сапунова заключалася ў тым, як дэцэнтралізаваць прыняцце рашэння па гэтым пытанні, даць больш самастойнасці мясцовым уладам. «Мясцовыя ўлады на ўсёй прасторы неабсяжнай Расіі крайне разнастайныя. Няўжо цэнтральныя ўлады ва ўсіх непадобных мясцовых умовах разбяруцца лягчэй і лепш, чым улады мясцовыя?— сказаў ён. — Неабходна ставіцца да мясцовых улад з большым даверам. Цэнтралізацыя не заўсёды служыць гарантыяй ад злоўжыванняў на месцах; насупраць, менавіта яна нярэдка з'яўляецца не чым іншым як зручнай шырмай, якой мясцовыя дзялкі прыкрываюць свае заганныя дзеянні. Значыць, у лепшым выпадку цэнтралізацыя для дадзенай справы бескарысная...

Зносіны мясцовых улад з цэнтральнымі па шматлікіх справах аб забудове, несумненна, абумовяць неабходнасць заснавання асобных канцэлярый; канцэлярыі гэтыя будуць каштаваць немалых грошай: адкуль жа узяць гэтыя грошы? Вядома, з забудоўшчыка. І такім чынам яшчэ лішні цяжар ляжа на слабыя

плечы найменш забяспечанага гарадскога жыхара. Ці пажадана гэта?»[11].

Папраўку, прапанаваную А. Сапуновым, Дзяржаўная дума прыняла.

Два апошнія выступленні Аляксея Парфенавіча 30 мая 1909 года і 11 мая 1910 года хоць і тычыліся розных пытанняў, але па сутнасці справы прысвячаліся адной і той жа тэме — «беларускай народнасці».

Яшчэ ў 1840 годзе царскія ўлады забаранілі ўжыванне ў афіцыйных дакументах назвы «Беларусь», замест якой прапаноўвалася ўжываць выраз «Паўночна-Заходні край». І толькі пасля рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, калі ў беларускім народзе, асабліва ў асяродзі інтэлігенцыі, усё больш і больш абуджалася нацыянальная самасвядомасць, царызм вымушаны быў пайсці на ўступкі.

Ужо ў першым сваім выступленні ў думе Аляксей Парфенавіч, разважаючы аб Літоўскім статуце, зазначыў, што яго больш правільна было б назваць «Беларускім», паколькі ён — «плён генія беларускага народа». Выступаючы ў думе 30 мая 1909 года аб неабходнасці змянення парадку выбараў членаў Дзяржаўнага Савета ад дзевяці заходніх губерняў, ён зноў закрануў пытанне аб самастойнасці беларускай нацыі. Адказваючы аднаму са сваіх апанентаў, Сапуноў падкрэсліў, што «беларускае племя» — гэта не толькі беларусы-праваслаўныя, але і беларусы-каталікі. «Дробная шляхта і сяляне-каталікі ў хатнім быце размаўляюць звычайна па-беларуску і амаль нічым не адрозніваюцца ад сваіх сабратоў — праваслаўных беларусаў. Адносіць да палякаў гэтых беларусаў толькі таму, што яны каталікі, гэта ўжо не што іншае як, з дазволу сказаць, этнаграфічны грабёж»[12]. А. Сапуноў двойчы падкрэсліў: «Мы не ворагі палякаў». І ўсё ж у многіх сваіх працах ён празмерна захапляўся крытыкай паланізма, менавіта ў паляках і яўрэях бачыў усе

беды простага люду і тым самым, няхай сабе несвядома, аднак унёс і сваю лепту у распальванне нацыянальнай розні і рэлігійнай барацьбы паміж праваслаўем і каталіцызмам.

У маі 1910 года абмяркоўваўся і пасля быў прыняты ўрадавы законапраект аб увядзенні земства ў Віцебскай, Валынскай, Кіеўскай, Мінскай, Магілёўскай і Падольскай губернях. Нягледзячы на некаторыя пазітыўныя яго моманты, закон у той жа час быў накіраваны на распальванне нацыянальнай варожасці бо дзяліў выбаршчыкаў па нацыянальнай прыкмеце і недапускаў у земства яўрэяў. А. Сапуноў не толькі яго падтрымаў, але і выступіў 11 мая 1910 года з невялікай прамовай ад групы дэпутатаў Віцебскай губерні. Ён гаварыў аб крайне нязначнай і зусім недастатковай колькасці школ, аб нізкім узроўні адукаванасці насельніцтва Беларусі як у XIX стагоддзі, так і ў пачатку наступнага. Аднак вінаватымі ў гэтым, на яго думку, зноў жа былі менавіта палякі.

У час аднаго са сваіх прыездаў у Віцебск на «канікулы», 26 верасня 1910 года Аляксей Парфенавіч на паседжанні Віцебскай вучонай архіўнай камісіі прачытаў публічную лекцыю «Беларусь і беларусы», якая была надрукавана ў «Віцебскіх губернскіх ведамасцях», а затым выдадзена асобнай брашурай. «У цяперашні час усе, нават дробныя народнасці, імкнуцца да нацыянальнага самавызначэння; неабходна самавызначыцца і нам, беларусам. Самавызначыцца, зразумела, ... не з мэтай якога-небудзь сепаратызму. Не, беларуская ж народнасць — адна з асноўных народнасцей рускага племя... Узмацненне нацыянальнай самасвядомасці сярод беларускай масы, несумненна, павядзе да больш цеснага яднання яе з астатняй Руссю» — так Аляксей Парфенавіч пачаў сваё выступленне. Працягваючы лінію на адзінства паходжання рускіх і беларусаў, ён крытыкаваў як польскіх гісторы-

Бѣлоруссія и Бѣлоруссы.

(Читано въ засѣданіи Витебской Ученой Архивной Комиссіи 26-го сентября).



Витебскъ
Губернская Типографія.
1910.

*Вокладка кнігі «Беларусь і беларусы»*

каў, якія бачылі беларусаў і літоўцаў «пры агульным прозвішчы «паляк», так і некаторых літоўска-латышскіх публіцыстаў за іх сцвярджэнні, што «беларусы — славянізаваныя літоўцы». «Толькі ў самы апошні час у масу рускага адукаванага грамадства стала пранікаць усведамленне таго, што Заходняя Русь не толькі паводле падання носіць такую назву (маецца на ўвазе назва «Беларусь».— *А.П.)*, што асаблівасці мовы беларускай, іх норавы і звычаі, багатая народная літаратура і г. д. пераканаўча даказваюць існаванне асобнага беларускага племя»[13],— пісаў А. Сапуноў. Спасылаючыся на працы М. Каяловіча, А. Пыпіна, А. Сабалеўскага, Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, А. Кіркора, І. Забеліна і А. Шахматава, гісторык акрэсліваў вобласць пражывання беларусаў (Віцебская, Мінская, Магілёўская, Віленская, Гродзенская, Ковенская, Смаленская, Чарнігаўская, Пскоўская, Цвярская, Арлоўская, Калужская, Сувалкская і Курляндская губерні). Адзначыўшы «беларускія асаблівасці... нават у Рузскім, Валакаламскім і Мажайскім паветах Маскоўскай губерні», ён робіць спробу растлумачыць паходжанне слоў «крывічы» (ад беларускага «кроў»), «Беларусь» і «беларус» («Белая Русь» пачынаецца з 50-х гадоў XVII стагоддзя ў царскім тытуле), падлічыць колькасць беларусаў (па меншай меры 9 мільёнаў). Значная частка гэтай працы А. Сапунова ўяўляе сабой фрагменты яго прамовы ў думе. Гэта брашура «Беларусь і беларусы» паслужыць у далейшым для курса Сапунова «Беларусазнаўства», які ён чытаў у Віцебскім аддзяленні Археалагічнага інстытута і ў Інстытуце народнай асветы ў 1918—1924 гадах.

З'яўляючыся членам думы, Аляксей Парфенавіч не парываў сувязі з Віцебскам. Усе працяглыя перапынкі паміж пасяджэннямі і афіцыйныя канікулы ён праводзіў дома, ды і ў Пецярбург яму рэгулярна прыходзілі пісьмы з паведамленнямі аб найбольш значных віцеб-

скіх навінах. А. Сапуноў уважліва сачыў за краязнаўчым рухам і, нягледзячы на сваю занятасць у сталіцы, знаходзіў час прымаць у ім актыўны ўдзел.

Яшчэ ў пачатку XX стагоддзя Аляксей Парфенавіч разам з групай грамадскіх дзеячаў і гісторыкаў выступіў з прапановай стварыць у Віцебску краязнаўчую арганізацыю. Праўда, меркаванні наконт прынцыпаў яе дзейнасці і назвы падзяліліся. А. Сапуноў лічыў, што неабходна стварыць аддзяленне Геаграфічнага таварыства, членам якога ён сам з'яўляўся з 1893 года. Аднак большасць з гэтым не пагадзілася, справядліва ўказваючы на тое, што гэта арганізацыя займаецца пераважна геаграфічнымі пытаннямі, у той час як размова ішла перш за ўсё аб вывучэнні гістарычнага мінулага Віцебска і Полацка-Віцебскага краю. Па прапанове М. Багародскага таварыства назвалі вучонай архіўнай камісіяй.

Аднак мясцовыя ўлады не спяшаліся даваць дазвол на яе адкрыццё. Толькі пасля пераводу па службе ў Віцебск Васіля Сяргеевіча Арсеньева (1883—1947), сына вядомага дыпламата і пляменніка галоўнага захавальніка Аружэйнай палаты, справа скранулася з месца. Будучы прафесар Маскоўскага археалагічнага інстытута здолеў-такі дабіцца станоўчага рашэння: 26 лютага 1909 года звярнуліся з хадайніцтвам да губернатара, і ўжо 31 мая Віцебская вучоная архіўная камісія (ВВАК) была адкрыта. Асноўнымі задачамі яе былі ахова помнікаў старажытнасці і архітэктуры, разгляд і вывучэнне старадаўніх рукапісаў і дакументаў, папулярызацыя ведаў па гісторыі роднага краю, збіральніцтва прадметаў старадаўнасці, правядзенне археалагічных раскопак і экскурсій, выданне навуковых прац і папулярных брашур па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, фальклору і археалогіі Віцебшчыны.

Ужо ў першы год існавання ВВАК у яе радах налічвалася 99 ганаровых і 158 сапраўдных членаў. Праз

год колькасць першых павялічылася да 102, другіх — да 356. Сярод ганаровых членаў ВВАК былі П. Сямёнаў-Цянь-Шанскі, В. Ключэўскі, П. Барценеў, Е. Раманаў, Д. Кайгародаў, М. Доўнар-Запольскі, Д. Даўгяла, М. Нікіфароўскі, І. Спрогіс, А. Суворын, І. Цвятаеў; сярод сапраўдных — Я. Карскі, І. Далгоў, М. Анцаў, В. Федаровіч, П. Красавіцкі, Ул. Стукаліч, М. Багародскі, Ул. Краснянскі, Ул. Цеханавецкі. Старшынямі яе у розныя гады з'яўляліся В. Арсеньеў (1909—1910), Ус. Кадыгробаў (1910—1912), К. Ціхаміраў (1912—1919). У 1914 годзе А. Сапуноў быў абраны таварышам (намеснікам) старшыні камісіі.

Знаходжанне Аляксея Парфенавіча ў Пецярбургу пазбаўляла яго магчымасці прымаць удзел ва ўсіх пасяджэннях і мерапрыемствах камісіі. Тым не менш у 1909—1911 гадах ён выступаў з публічнымі лекцыямі, правёў «навукова-асветніцкую», па яго асабістым вызначэнні, экскурсію па Віцебску, падрыхтаваў для зборніка ВВАК «Полацка-Віцебская даўніна» і «Прац» камісіі восем артыкулаў, у тым ліку «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі», «Малюнкі крэпасцей, пабудаваных па загаду цара Івана Грознага пасля вызвалення Полацка ў 1563 годзе», «Прывілеі, дадзеныя каралямі польскімі г. Віцебску», «Паданні ісландскіх або скандынаўскіх сагаў аб Полацку, князях полацкіх і р. Заходняй Дзвіне», «Знаходжанне імператрыцы Кацярыны II у Полацку». Першая з іх была выпушчана і асобным выданнем.

Прыняў Аляксей Парфенавіч таксама ўдзел ў стварэнні музея і бібліятэкі камісіі. Першаму ён перадаў вітрыну з цікавымі знаходкамі раскопак Люцінскага магільніка, а другой — па аднаму экземпляру ўсіх сваіх кніг і брашур, а таксама выданні іншых аўтараў па гісторыі, археалогіі і гісторыі царквы.

Безумоўна, адной з найбольш выдатных спраў ВВАК стала адкрыццё ў горадзе аддзялення Маскоў-

скага археалагічнага інстытута (МАІ). Да гэтага падобныя навучальныя ўстановы ўжо меліся ў Смаленску і Калузе і карысталіся ў мясцовых аматараў старадаўнасці вялікім поспехам. Актыўнасць у рашэнні пытання аб адкрыцці Віцебскага аддзялення МАІ праявіў старшыня ВВАК Ус. Кадыгробаў. Выкарыстоўваючы свае маскоўскія знаёмствы, пасільнае садзейнічанне яму аказваў і Аляксей Парфенавіч. 27 кастрычніка 1911 года ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося адкрыццё навучальнай установы. А. Сапунова ў гэты час у Віцебску не было, але разам з іншымі дэпутатамі з Віцебскай губерні ён адправіў прывітальную тэлеграму.

Спачатку віцебскае аддзяленне МАІ мела толькі два факультэты: археалагічны і археаграфічны. У 1917 годзе адкрыўся трэці — гісторыі мастацтваў. У навучальную ўстанову прымаліся асобы, якія мелі вышэйшую альбо сярэднюю адукацыю. Званні, якія прысвойваліся выпускнікам (вучоны-архівіст, вучоны-археолаг, вучоны-мастацтвазнаўца), асаблівых правоў не давалі. Лекцыі ў інстытуце чыталі ў асноўным прыезджыя прафесары-гісторыкі Ул. Перцаў і А. Успенскі (пляменнік пісьменніка Г. Успенскага), архівіст М. Ардашаў, археолаг В. Гарадцоў, філолагі С. Сабалеўскі і М. Навасадскі, этнограф Ул. Дабравольскі. З 1911 года курс па гісторыі Беларусі чытаў і А. Сапуноў. Яго лекцыі ў зале настаўніцкага інстытута, дзе адбываліся заняткі гэтай навучальнай установы, заўсёды збіралі слухачоў значна больш, чым тыя 70—80 навучэнцаў, што праходзілі курс у інстытуце. У лютым 1913 года савет МАІ прысвоіў Аляксею Парфенавічу званне прафесара. Ён выкладаў у інстытуце да яго закрыцця ў 1922 годзе.

## СТАРЭЙШЫНА ВІЦЕБСКІХ КРАЯЗНАЎЦАЎ

***Вяртанне ў Віцебск. Полацкая загадка. Урачыстасці з выпадку 100-годдзя Айчыннай вайны. «Гістарычны нарыс 50-годдзя статыстычнага камітэта»***

У ліпені 1912 года скончыўся тэрмін паўнамоцтваў Дзяржаўнай думы трэцяга склікання. Але А. Сапуноў з-за хваробы вярнуўся ў Віцебск яшчэ раней — у канцы мая. Праз два месяцы патрабавалася яго прысутнасць у Полацку, дзе ў нішы Сафійскага сабора ў час рамонтных работ было выяўлена невядомае пахаванне. Мясцовыя краязнаўцы не здолелі разгадаць гэту загадку. Таму ВВАК накіравала ў старажытны горад свайго лепшага знаўцу.

8 жніўня ў прысутнасці Аляксея Парфенавіча адкрылі вялікую сасновую труну, абабітую цёмна-рудым аксамітам. У ёй пакоіўся прах даволі высокага мужчыны (2 аршыны і 10 вяршкоў — 186 см). На галаву нябожчыка была надзета цёмна-фіялетавая мітра, упрыгожаная каменнямі ў металічнай аправе. На нагах — сандалі, на руках — скураныя цёмна-рудыя пальчаткі. На пальцы левай рукі меўся цёмны пярсцёнак, на пальцы правай — залаты персцень з каменем, на якім быў выразна бачны герб. Ніякіх надпісаў выявіць не ўдалося.

Адзенне і месца пахавання падказалі Аляксею Парфенавічу, што гэта быў полацкі архіепіскап. Далей ніточка вяла да герба на пярсцёнку. Гісторык пачаў параўноўваць яго з усімі яму вядомымі. Супаў герб на пячатцы «Стаўленай граматы» 1747 года, якая пачыналася так: «Фларыян Грабніцкі... архіепіскап Полацкі, епіскап Віцебскі, Мсціслаўскі, Аршанскі і Магілёўскі»... Сапуноў робіць вывад, што нябожчык не

хто іншы як Ф. Грабніцкі (1684—1762), адзін з фанатычных апекуноў уніі, яры прыхільнік архіепіскапа Іясафата Кунцэвіча, забітага віцяблянамі ў 1623 годзе. Выпускнік рускага калегіума ў Львове і Віленскага універсітэта. Ф. Грабніцкі ўжо ў 32 гады з'яўляўся Віцебскім епіскапам, а ў 1719 годзе быў удастоены сана архіепіскапа Полацкага. У 1729—1730 гадах ён наведаў Рым, дзе яго з пашанай прыняў папа Бенедзікт XII. Тады ж Ф. Грабніцкі зблізіўся з кардыналам Ламберці, будучым папай Бенедзіктам XIV. Усё сваё жыццё архіепіскап вёў бязлітасную барацьбу з праваслаўем. Рэлігійны фанатызм зрабіў яго вельмі гняўлівым чалавекам, якога баяліся нават самыя блізкія людзі. Правільнасць свайго меркавання А. Сапуноў імкнуўся даказаць дакументальна. У архівах Сафійскага сабора акрамя даты смерці Грабніцкага нічога не знайшлося. Затое ў дзесятым томе «Археаграфічнага зборніка» Аляксей Парфенавіч выявіў цікавы «Дзённік Сафійскага манастыра», у якім паведамлялася, што цела Ф. Грабніцкага 28 чэрвеня 1762 года з рэзідэнцыі полацкіх архіепіскапаў, што знаходзілася ў вёсцы Струне, прывезлі ў Полацк і паклалі ў капліцу. А вось аб месцы пахавання ў «Дзённіку» нічога не паведамлялася. Апошнім, што пераканала гісторыка ў беспамылковасці яго вываду, стала знаходка ў мясцовым царкоўна-археалагічным сховішчы даўніны. На жалезнай пласціне квадратнай формы па-польску было напісана: «У гэтай грабніцы пакоіцца прах высокапраасвяшчэннага Фларыяна Грабніцкага, які скапаў 18 чэрвеня 1762 года». Пласціну, напэўна, меліся прымацаваць на месцы пахавання, але па нейкай прычыне не зрабілі гэтага. З цягам часу тых, хто ведаў аб ім, заставалася ўсё менш і менш, і нарэшце яно было канчаткова забыта.

Ф. Грабніцкі не выпадкова аказаўся пахаваны ў такім ганаровым месцы. І справа нават не ў заслугах

яго перад уніяцкай царквой. Галоўная прычына — гэта тое, што сваім з'яўленнем Сафійскі сабор абавязаны менавіта яму, Фларыяну Грабніцкаму. Па ініцыятыве архіепіскапа ў 1738—1750 гадах па праекту архітэктараў Глаўбіца і Қасінскага быў пабудаваны славуты храм.

...Вярнуўшыся з Полацка, А. Сапуноў падключыўся да падрыхтоўкі ўрачыстасцей з нагоды юбілею Айчыннай вайны і адкрыцця помніка ў гонар удзельнікаў бітваў пад Віцебскам. Ініцыятарам узвядзення яго стала вучоная архіўная камісія ў асобе яе старшыні Ус. Қадыгробава. У горадзе па-рознаму ставіліся да гэтай прапановы. Шмат хто падтрымліваў, але было і нямала праціўнікаў. Не пярэчачы супраць самой ідэі ўвекавечання памяці герояў 1812 года, яны прапаноўвалі лепш пабудаваць пачатковую школу або дзіцячы прытулак. Аляксей Парфенавіч, не адмаўляючы неабходнасці таго і другога, тым не менш падтрымаў старшыню ВВАҚ. Урэшце-рэшт гэты пункт гледжання перамог. І праз Пецярбургскае таварыства архітэктараў быў аб'яўлены конкурс на лепшы праект помніка.

Пераможцам яго стаў вядомы рускі архітэктар І. Фамін (1872—1936). Прапанаваны ім варыянт уяўляў сабой высокі стройны абеліск, устаноўлены на элегантным п'едэстале, упрыгожаным бронзавымі гірляндамі. Вянчаў помнік бронзавы двухгаловы арол. На мемарыяльнай дошцы адліты тэкст: «Бессмяротнай доблесці герояў Айчыннай вайны, удзельнікаў бітвы пад Віцебскам 13, 14, 15 чэрвеня, 26 кастрычніка 1812 года».

Урачыстасці праходзілі два дні — 5 і 6 снежня. А. Сапуноў, які пазбягаў шумных і мнагалюдных святкаванняў, тым не менш прыняў у іх удзел, адчуў радаснае пачуццё асабістай прыналежнасці да вялікай падзеі ў жыцці горада.

У канцы жніўня 1913 года вызвалілася месца сакратара губернскага статыстычнага камітэта, якое Аляксей Парфенавіч пакінуў пасля абрання ў думу, і ён ахвотна вярнуўся на ранейшую пасаду. Год гэты для камітэта быў юбілейны. І гісторык, вядома ж, не мог не адгукнуцца на яго. «Гістарычны нарыс 50-годдзя Віцебскага статыстычнага камітэта» першапачаткова быў надрукаваны ў якасці дадатку да «Памятнай кніжкі Віцебскай губерні» на 1914 год, а затым выпушчаны аўтарам асобным выданнем. У «Нарысе» расказваецца аб гісторыі стварэння і дзейнасці камітэта, перададзены кароткі змест усіх «Памятных кніжак Віцебскай губерні», прыведзены спісы губернатараў, якія з'яўляліся адначасова старшынямі камітэта, і яго сакратароў (справаводаў). «Гістарычны нарыс 50-годдзя Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта» з'явіўся апошняй значнай працай А. Сапунова.

## АПОШНІЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ

### *Архіўная праца і выкладальніцкая дзейнасць. Супрацоўніцтва з краязнаўчымі арганізацыямі. «Гісторыя горада Віцебска»*

Рэвалюцыйныя падзеі 1917 года Аляксей Парфенавіч сустрэў у Віцебску. Не існуе прамых пацверджанняў таго, як ён успрыняў такія перамены ў жыцці краіны і народа. Аднак няма ніякага сумнення ў тым, што нядаўні акцябрыст і перакананы манархіст проста не мог іх адобрыць і зразумець. Грамадскае жыццё у горадзе бурліла і было напоўнена самымі рознымі падзеямі, але А. Сапуноў аніякага ўдзелу ў іх не прымаў. Гэты замкнёны па характару чалавек усёй сваёй істотай не мог прыняць перамены, чужыя яму.

Застаўшыся без пенсіі, нягледзячы на ўзрост і хва-

робы, гісторык быў вымушаны зноў пайсці на службу. Спачатку ён выконваў абавязкі загадчыка статыстычнага аддзела губвыканкама, з 1 лістапада 1918 года быў прызначаны загадчыкам секцыі дэмаграфіі ў губернскім статыстычным бюро. Аднак праз пяць месяцаў ён пакідае гэту пасаду і пераходзіць на іншую — у губархіў. Тлумачачы такое рашэнне, Аляксей Парфенавіч пісаў у заяве: «З прычыны хваробы вачэй (Cataracte) я, на жаль, не магу адносіцца да сваіх абавязкаў у поўнай меры добрасумленна, а таму вымушаны пайсці ў адстаўку». Атрымаўшы яе, на наступны дзень, 1 красавіка 1919 года, падае прашэнне аб аказанні яму матэрыяльнай дапамогі, указаўшы на тое, што не мае «дастатковых сродкаў ні на лячэнне вачэй, ні наогул на далейшае існаванне» і што «справе статыстыкі праслужыў 18 гадоў».

У ліпені 1919 года Віцебскі губернскі архіў (архіўны фонд) быў падзелены на сем секцый, тыя ў сваю чаргу складалі два аддзелы. Адзін з іх, у які ўваходзілі секцыі народнай асветы, гісторыка-эканамічнай і ўнутранага кіравання і самакіравання, узначаліў А. Сапуноў. З'яўляючыся членам калегіі, ён часта наведваўся ў Віцебскі, Сенненскі, Невельскі і іншыя паветы з мэтай вывучэння і перавозкі пры неабходнасці ў Віцебск пакінутых без нагляду фамільных архіваў, бібліятэк, цікавых гістарычных дакументаў. У адной са справаздач гісторыка, што захавалася ў фондах дзяржаўнага архіва Віцебскай вобласці, даецца наглядное ўяўленне аб тым, з якой адказнасцю ён ставіўся да гэтай справы: «У 1919 г. зносіны па чыгунках былі вельмі ўскладнёныя, а з верасня таго ж года яны, можна сказаць, і зусім перапыніліся. Ніколі нельга было даведацца загадзя, калі адправіцца і прыбудзе цягнік. Коней знайсці было таксама надзвычай цяжка, іх было параўнальна мала, ды і тыя абяссілены бяскорміцай і хваробамі.

Толькі дзякуючы ўвазе колішняга ўладальніка сядзібы Лускінопаль А. І. Балкашынава, які ніколі не адмаўляў даць каня, нам удалося азнаёміцца з архівам і бібліятэкамі некалькіх валасных праўленняў, цэркваў і маёнткаў. Агульнае ўражанне дужа няўцешнае для архіўнай справы. Асобы, якія ў свой час рэквізавалі бібліятэкі і архівы, у большасці сваёй ужо сышлі са сцэны і невядома, дзе знаходзяцца цяпер. Так, напрыклад, Шлык, які рэквізаваў архіў і бібліятэку ў сядзібе Лускінопаль Машканскай воласці Сенненскага павета, невядома дзе жыве ў цяперашні час. Акрамя кніг, ён узяў вельмі цікавы рукапіс XVIII стагоддзя, а таксама асобныя дакументы і арыгінальныя граматы. Адшукаць іх да гэтага часу не ўдалося. Такім жа чынам, напэўна, загінула незваротна і славутая пергаментная біблія XVI стагоддзя, узятая з маёнтка Даманава[14] Высачанскай воласці Віцебскага павету, якая належала пану Заранку...»

У студзені 1922 года ў сувязі са значным скарачэннем штатаў Аляксей Парфенавіч быў вызвалены ад пасады архіварыуса і пераведзены на здзельную аплату працы. Адначасова з працай у дзяржаўных установах ён з восені 1918 года працягваў сваю педагагічную дзейнасць — спачатку ў Віцебскім аддзяленні МАІ, а пасля яго закрыцця ў інстытуце народнай адукацыі. Тут, праўда, не абыходзілася без канфліктаў і неразумення з боку кіраўніцтва. Расказваючы аб гэтым, А. Сапуноў пісаў незадоўга да смерці: «Я быў такі шчаслівы, што на старасці гадоў дажыў да адраджэння Беларусі, калі ні «сепаратызм», ні «сімпатыі да Беларусі» ужо не лічыліся крамольнымі. Аднак тут здарылася яшчэ горшая бяда! Калі я канстатаваў факт малога знаёмства шырокіх мас з назвай «Беларусь», то аказаўся ледзь не ворагам адраджэння дарагой радзімы: мне не дазвалялася чытаць.. лекцыі па гісторыі Беларусі, для якой я, па меры маіх сіл і

магчымасцей, працаваў больш як 40 гадоў і гісторыю якой я выкладаў на працягу 10 гадоў. Такім чынам, я трапіў, як кажуць, з агню ў полымя. Мне дазволена было чытаць лекцыі аб старажытнасцях Беларусі».

Курс гэты быў разлічаны ўсяго на чатыры гадзіны ў тыдзень і ўключаў у сябе пытанні аховы помнікаў (з пятроўскай пары да апошняга часу), беларускія помнікі этнаграфіі (у асноўным «Барысавы камяні»), тапаграфію старажытнага Віцебска і Віцебскай губерні.

Выкладальніцкая дзейнасць Сапунова была перапынена летам 1924 года ў сувязі з закрыццём інстытута народнай асветы і пераводам студэнтаў і выкладчыкаў у мінскі універсітэт.

Нягледзячы на ўзрост і хваробы, неўладкаванасць жыцця, Аляксей Парфенавіч не спыняў грамадскай дзейнасці, актыўна супрацоўнічаючы з губернскай камісіяй па ахове помнікаў даўніны і мастацтва, што прыняла эстафету ад ВВАК. Асабліва гэта праявілася пры падрыхтоўцы святкавання 900-годдзя Віцебска, якое спаўнялася ў 1921 годзе[15]. У гонар юбілею было вырашана ўстанавіць памятны знак і арганізаваць выставу, а таксама выдаць спецыяльны гістарычны зборнік, альбом «Старадаўні Віцебск» і кнігу А. Сапунова «Гісторыя горада Віцебска».

Яшчэ ў 1917 годзе гісторык прыступіў да падрыхтоўкі гэтай фундаментальнай працы, якая па задуме аўтара павінна была падвесці рысу пад яго шматгадовай краязнаўчай дзейнасцю і стаць своеасаблівым вынікам усяго жыцця. У гэтай вялікай па аб'ёме кнізе (каля 500 старонак) меркавалася шырока асвятліць грамадска-палітычнае, рэлігійнае і культурнае жыццё Віцебска на працягу дзевяці стагоддзяў, апісаць найбольш значныя культавыя і грамадскія будынкі. Як і «Віцебскую даўніну», Сапуноў прадугледжваў аздобіць выданне амаль сотняй фотаздымкаў і

малюнкаў, а таксама 50 асобнымі ўкладкамі. Тыраж планаваўся невялікі, прычым надрукаваны на рознай паперы — ад самай таннай да найбольш дарагой. Адсюль і неаднолькавы кошт — 5, 10, 15 і 25 рублёў. Такі падыход да выпуску «Гісторыі горада Віцебска» даваў магчымасць набыць кнігу значна большай колькасці людзей, незалежна ад дастатку. Побач з недарагімі экземплярамі не выключаліся элегантныя, афармленыя на высокім узроўні, як бы сказалі сёння, у падарункавым варыянце. Па папярэдніх падліках, выдаткі павінны былі скласці каля 6 000 рублёў (у маштабах цэн студзеня 1918 года). Такіх вялікіх сродкаў А. Сапуноў, вядома, быў пазбаўлены. Таму ў яго не было іншага выйсця, як папярэдняя падпіска.

Нягледзячы на тое што стан здароўя пастаянна пагаршаўся, Аляксей Парфенавіч настойліва працаваў над гэтай кнігай. У канцы 1920 года па невядомых прычынах Сапунова выселілі з яго дома. І толькі ўмяшанне камісіі па ахове помнікаў даўніны і мастацтва, якая звярнулася ў губернскі аддзел народнай асветы, дапамагло яму у лютым 1921 года вярнуць сваё жыллё назад. Аднак за гэты час знікла некалькі рукапісаў гісторыка, у тым ліку і «Гісторыя горада Віцебска». Яе пазней адшукалі. Аднак, паколькі хвароба вачэй прагрэсіравала і самастойна Сапуноў працаваць ужо не мог, камісія вымушана была звярнуцца зноў да губернскіх улад з просьбай выдзеліць гісторыку спецыяльнага чалавека для пісання пад дыктоўку і перапісвання яго прац.

У сярэдзіне жніўня «Гісторыя горада Віцебска» была завершана і перададзена на рэцэнзаванне дырэктару Віцебскага гістарычнага музея А. Брадоўскаму і краязнаўцу Ул. Краснянскаму і ў цэлым атрымала станоўчы водгук. І ўсё ж гэта праца А. Сапунова так і не ўбачыла свету: на яе друкаванне не ўдалося сабраць неабходнай колькасці сродкаў. Адзін эк-

земпляр рукапісу пасля смерці гісторыка быў перададзены ў Інбелкульт, але далейшы лёс яго невядомы. Два іншыя машынапісныя экземпляры разам з усім архівам Аляксея Парфенавіча трапілі ў Віцебскі гістарычны (зараз краязнаўчы) музей.

Уяўленне аб гэтай працы А. Сапунова дае пералік назваў глаў: «Рускі старажытны перыяд» (1021—1320), «Літоўска-рускі перыяд» (1320—1569), «Перыяд польска-літоўска-рускі, або беларускі» (1569—1772), «Рускі поры» (з 1772). Як і ў іншых апошніх публікацыях А. Сапунова, некаторыя главы «Гісторыі горада Віцебска» былі цалкам узяты з яго папярэдніх прац. Так, напрыклад, у главе «Перыяд польска-літоўска-рускі, або беларускі» дзве старонкі цалкам узяты з брашуры «Чарцёж горада Віцебска 1664 года», першыя 15 старонак запазычаны з кнігі «Губернатарскі палац у Віцебску». Адна з наступных глаў складаецца з 24 старонак «Чарцяжа» і трох старонак «50-годдзя Віцебскага статыстычнага камітэта».

Акрамя «Гісторыі горада Віцебска» Аляксей Парфенавіч да 900-годдзя горада павінен быў падрыхтаваць брашуры «Кароткі нарыс гісторыі Віцебска на пачатку XX стагоддзя» аб'ёмам 79 рукапісных старонак. У красавіку 1921 года яна была здадзена ў друк, аднак свету таксама не ўбачыла. Зараз гэты рукапіс захоўваецца ў фондах Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

Для юбілейнага зборніка (таксама нявыдадзенага) гісторык падрыхтаваў два невялікія артыкулы — «Хто такія беларусы?» і «Што такое Беларусь?». У першым з іх аўтар, карыстаючыся пераважна творамі А. Пыпіна і І. Сразнеўскага, апісвае гістарычны лёс беларускага народа, прыводзіць колькасць беларусаў па губернях і паветах. Закрануў ён пытанне беларускай мовы і паходжання назвы «Белая Русь». «Тэрмін гэты... прымяркоўваецца альбо да фізічнай прыкметы,

альбо тлумачыцца ў пераносным сэнсе, азначаючы «незалежны», «вольны»,— піша гісторык.— У старажытных актах мы знаходзім выраз «белая зямля» ў процілегласць «чарнасошнай зямлі», «белая зямля» азначае зямлю, вольную ад падаткаў і павіннасцей, «белая месца»— гэта значыць не цяглае, вольнае, свабоднае; у тым жа сэнсе «белы свет»— вольны свет. У гэтым жа сэнсе, можа быць, «Белая Русь» называлася так, як непакораная татарамі.

Аднак бліжэй да ісціны, здаецца, тлумачэнне гэтага эпітэта па знешнім выглядзе беларусаў: любімы колер іх — белы; апранаюцца яны ў белыя балахоны ці насовы, носяць белыя магеркі (лямцавыя каўпакі), а жанчыны — белыя хусткі (платкі). Такое ўбранне ўтрымлівалася да гэтага часу ў глухіх месцах Беларусі; раней такое адзенне было распаўсюджана паўсюдна».

У цяперашні час погляд на паходжанне назвы «Белая Русь» некалькі іншы. Яго звязваюць з больш раннім прыняццем хрысціянства ў параўнанні з Чорнай Руссю, а таксама з шырокім распаўсюджаннем у тапаніміцы слова «белая». Аднак у першай чвэрці XX стагоддзя поглядаў накшталт тых, што выказаў А. Сапуноў, прытрымлівалася большасць вучоных.

Юбілейны зборнік, для якога быў напісаны артыкул «Хто такія беларусы?», як ужо гаварылася, не быў выдадзены. Але ж А. Сапунову ўдалося змясціць яго ў «Известиях Витебского губкома РКП и губисполкома» 23 лютага 1924 года. У гэты час ставілася пытанне аб умацаванні Беларусі і далучэнні да яе многіх раёнаў Віцебскай і Гомельскай губерняў, так што гэта публікацыя з'явілася вельмі дарэчы. Праз тры дні ў гэтай жа газеце з'явілася яшчэ адна, апошняя прыжыццёвая публікацыя гісторыка — «Гістарычныя лёсы Беларусі», якая з'яўляецца, мяркуючы па ўсім, часткай нарыса «Што такое Беларусь?». Карат-

ка ахарактарызаваўшы асноўныя этапы развіцця беларускай народнасці, якія ў «Гісторыі горада Віцебска» з'яўляюцца самастойнымі главамі, А. Сапуноў вылучыў самае галоўнае ў іх, выкарыстоўваючы для гэтага гістарычныя дакументы.

Гісторыя беларускага народа, рух за нацыянальнае самавызначэнне беларусаў заўсёды былі блізкія Аляксею Парфенавічу. У яго вялікай і дбайна падабранай бібліятэцы меліся працы Я. Карскага, М. Доўнар-Запольскага, А. Семянтоўскага-Курылы, Д. Даўгялы, М. Нікіфароўскага, Ул. Стукаліча, Ул. Пічэты. Сапуноў заўсёды цікавіўся творамі беларускіх пісьменнікаў і наогул кнігамі на беларускай мове. Часта перачытваў «Паўлінку» Я. Купалы, віцебскае выданне паэмы «Тарас на Парнасе». Меў гісторык і забароненую кнігу Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская», якую Сапунову па яго просьбе даслаў Б. Эпімах-Шыпіла. Пры гэтым апошні прасіў Аляксея Парфенавіча «хаваць яе і тым больш нікому не паказваць». Ужо ў гады савецкай улады ў бібліятэцы Сапунова, нягледзячы на крайне цяжкае матэрыяльнае становішча, з'явілася кніга Ус. Ігнатоўскага «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» і часопіс «Крывіч».

Праз некалькі дзён пасля апошняй публікацыі А. Сапунова — 3 красавіка 1924 года — было прынята рашэнне аб далучэнні большай часткі Віцебскай губерні да Беларусі. Аднак Аляксею Парфенавічу ўжо не суджана было сыграць у станаўленні рэспублікі якую-небудзь прыкметную ролю.

Пра тое, што ён вельмі дрэнна бачыць з прычыны хваробы вачэй і па бойкіх вуліцах не можа хадзіць без павадыра, пісаў у газеце «Советская Белоруссия» у студзені 1924 года гісторык М. Мялешка. А. Сапуноў апынуўся ў страшэннай беднасці і, страціўшы па старасці магчымасць служыць, не меў абсалютна ніякіх сродкаў да жыцця. Грамадскасць Віцебска, ведаючы

аб цяжкім матэрыяльным становішчы гісторыка, хадайнічала перад Саўнаркамам Беларусі аб прызначэнні яму персанальнай пенсіі. Рашэнне аб гэтым, зважаючы на «вялікія заслугі ў вывучэнні беларускага краю», было прынята 1 кастрычніка 1924 года. А на наступны дзень, у дзесяць гадзін вечара, Аляксей Парфенавіч памёр.

## ПАСЛЯСЛОЎЕ

Навуковая дзейнасць А. Сапунова была ўсё ж ацэнена сучаснікамі. Ён абіраўся ганаровым членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909), Маскоўскага археалагічнага інстытута (1913), Таварыства па вывучэнні Магілёўскай губерні (1913), Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве (1918), сапраўдным членам Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта (1882), Гістарычнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце (1890), рускага геаграфічнага таварыства (1893), Ваенна-гістарычнага таварыства (1907), членам-карэспандэнтам Маскоўскага археалагічнага таварыства (1891), Курляндскага літаратурнага таварыства (1895), членам-супрацоўнікам Рускага археалагічнага таварыства (1894), членам-спаборнікам Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце (1886). У 1912 годзе Аляксею Парфенавічу было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна Веліжа.

У савецкі час імя гісторыка многія гады было незаслужана забыта. З канца 1920-х і да сярэдзіны 1950-х гадоў яно амаль не ўпаміналася. І да нядаўняга часу мала што гаварыла ці наогул было незнаёма большасці віцяблян. У горадзе, дзе вучоны пражыў амаль усё сваё жыццё, вывучэнню мінулага якога аддаў больш як 40 гадоў, пра Аляксея Парфенавіча ведалі літаральна адзінкі людзей.

Безумоўна, не ўсё ў спадчыне А. Сапунова вытрымала праверку часам. Некаторыя яго грамадска-палітычныя погляды нельга лічыць прагрэсіўнымі. Аднак было б няправільна і несправядліва толькі з-за гэтага перакрэсліваць усё зробленае гісторыкам. «Усе працы Аляксея Парфенавіча такія шырокія па закранутых тэмах, так усебакова характарызуюць Віцебшчыну, што немагчыма без іх абысціся... даследчыку мінулага Віцебшчыны,— пісаў краязнаўца М. Багародскі, які добра ведаў вучонага.— Імі даводзіцца карыстацца і археолагу, і этнографу, і географу, і натуралісту... Даводзіцца толькі здзіўляцца, як мог выканаць гэту тытанічную працу адзін чалавек. Выступаючы на пасяджэнні гісторыка-археалагічнай секцыі Інбелкульта, прысвечаным памяці Аляксея Парфенавіча, прафесар Ул. Пічэта адзначыў, што «у асобе А. П. Сапунова Беларусь страціла не толькі знаўцу края, але і даследчыка, які стварыў эпоху ў гісторыяграфіі Беларусі». «Знаёмячыся з апублікаванымі працамі Сапунова..., можна здзіўляцца яго энергіі, бачачы, колькі можа зрабіць чалавек у вольны ад выкладчыцкай працы час»,—пісаў М. Улашчык.

Час перамен закрануў і спадчыну А. Сапунова, і яго імя. Працы гісторыка ўсё больш і больш скарыстоўваюцца ў прапагандзе мінулага Полацка-Віцебскага краю. Рашэннем Віцебскага гарвыканкама ў 1987 годзе колішняя 3-я Валадарская вуліца была перайменавана ў вуліцу Сапунова. У сакавіку 1991 года ў Віцебску адбыліся першыя Сапуноўскія чытанні, з вялікай цікавасцю была сустрэта выстава, прысвечаная жыццю і дзейнасці славутага беларускага вучонага.

...Час ад часу я наведваюся да невялікага прыгожага дзіцячага садка ў самым пачатку вуліцы Піянерскай. Зусім яшчэ нядаўна на гэтым месцы знаходзіліся Трайчанскія могілкі, дзе быў пахаваны Аляксей Парфенавіч. Занядбалыя і недагледжаныя, як і боль-

шасць старых віцебскіх могілак, іх у пачатку 1970-ых гадоў наогул знеслі. Такім чынам, магілы А. Сапунова няма. І няма куды прыйсці, каб пакланіцца праху таго, хто так многа зрабіў для вывучэння гісторыі роднага краю. «Аляксей Парфенавіч сваімі літаратурнымі працамі стварыў выдатны, вечны помнік Віцебшчыне,— сказаў 27 красавіка 1925 года на вечары, прысвечаным памяці гісторыка, М. Багародскі.— На Віцебшчыне ляжыць абавязак падарыць помнік А. Сапунову». Ці будзе так? Ці ўстановяць хоць сціплы бюсцік гісторыка ў адным з ціхіх віцебскіх сквераў? Ці стануць традыцыйнымі Сапуноўскія чытанні? А галоўнае, ці будуць гэта імя ведаць і з удзячнасцю ўшаноўваць не толькі сучаснікі, але і будучыя пакаленні? Вельмі хочацца ў гэта верыць.

## АСНОЎНЫЯ ДАТЫ ЖЫЦЦЯ І ДЗЕЙНАСЦІ А. П. САПУНОВА

1851 г., 15 сакавіка — нарадзіўся ў горадзе Усвяты Віцебскай губерні

1862 г. — паступіў у Віцебскую аляксандраўскую гімназію

1869 г., вясна — закончыў курс гімназіі

1869 г., жнівень — паступае на гісторыка-філалагічны факультэт Пецярбургскага універсітэта

1873 г., жнівень — назначаны настаўнікам старажытных моў у Віцебскую аляксандраўскую гімназію

1878 г., 22 снежня — за выдатную службу ўзнагароджаны ордэнам св. Станіслава III ст.

1881 г. — у «Памятнай кніжцы Віцебскай губерні» апублікавана першая навуковая праца — «Гістарычныя звесткі аб віцебскім замку»

1882 г., 12 сакавіка — абраны сапраўдным членам Віцебскага статыстычнага камітэта

1882 г., 29 снежня — за выдатную службу ўзнагароджаны ордэнам св. Анны III ст.

1883 г. — выдадзены першы том зборніка «Віцебская даўніна»

1884 г. — выдадзена кніга «Гістарычная запіска 75-годдзя Віцебскай гімназіі»

1885 г., 25 кастрычніка — абраны членам-спаборнікам Таварыства гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце

1885 г. — выдадзены чацвёрты том зборніка «Віцебская даўніна»

1887 г. — за выдатную службу ўзнагароджаны ордэнам св. Станіслава II ст.

1888 г. — выдадзены пяты том зборніка «Віцебская даўніна»

1890 г. — выдадзена кніга «Дзвінскія або Барысавы камяні»

1891 г., 26 лютага — абраны членам-карэспандэнтам Гістарычнага таварыства пры Пецярбургскім універсітэце

1893 г., 1 студзеня — за выдатную службу ўзнагароджаны ордэнам св. Анны II ст.

1893 г. — разам з Е. Раманавым стварыў у Віцебску царкоўнае сховішча даўніны

1893 г. — выдадзена кніга «Рака Заходняя Дзвіна»

1894 г., 12 красавіка — абраны членам-супрацоўнікам Рускага археалагічнага таварыства

1896 г., 21 лютага — прызначаны выконваючым абавязкі архіварыуса Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актавых кніг

1896 г., 21 верасня — удастоены залатога Увараўскага медаля Расійскай акадэміі навук за рэцэнзію на твор Ф. фон Кейслера

1896 г. — выдадзена кніга «Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні»

1897 г., 1 верасня — пераезд у Маскву. Прызначаны памочнікам інспектара студэнтаў Маскоўскага універсітэта

1900 г., 1 студзеня — за выдатную, бездакорную службу ўзнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра IV ст.

1901 г., 20 кастрычніка — вяртанне ў Віцебск. Прызначаны сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта

1901 г. — выдадзена кніга «Губернатарскі палац у Віцебску»

1903 г. — выдадзена кніга «Помнікі часоў старажытных і навейшых у Віцебскай губерні»

1905 г. — удзел у падрыхтоўцы дзевятага тома даведніка «Расія»

1907 г., кастрычнік — абранне дэпутатам Дзяржаўнай думы трэцяга склікання ад Віцебскай губерні. Ад'езд у Пецярбург

1909 г., 3 ліпеня — абраны ганаровым членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі

1912 г., 17 красавіка — абраны ганаровым грамадзянінам горада Веліжа

1913 г., 3 лютага — абраны прафесарам Маскоўскага археалагічнага інстытута

1913 г., жнівень — прызначаны сакратаром Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта

1913 г. — абраны ганаровым членам Таварыства па вывучэнні Магілёўскай губерні

1914 г. — выдадзена кніга «Гістарычны нарыс 50-годдзя Віцебскага статыстычнага камітэта»

1918 г. — абраны ганаровым членам Беларускага навукова-асветніцкага таварыства ў Маскве

1918—1924 гг. — працуе ў статыстычным аддзеле губвыканкама, у губернскім архіве, выкладае ў Віцебскім аддзяленні МАІ і Віцебскім інстытуце народнай асветы.

1923 г. — абраны членам-карэспандэнтам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Расійскай акадэміі навук

1924 г., 23—26 лютага — публікацыя апошніх працаў

1924 г., 2 кастрычніка — смерць на 73-ім годзе жыцця

## АСНОЎНЫЯ ПРАЦЫ А. П. САПУНОВА (ХРАНАЛОГІЯ)*

### *Умоўныя абазначэнні:*

1 — Дзяржаўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь
2 — Дзяржаўная публічная бібліятэка імя Салтыкова-Шчадрына
3 — Дзяржаўная бібліятэка Расіі
4 — Віцебская абласная бібліятэка
5 — Фундаментальная бібліятэка імя Якуба Коласа АН Рэспублікі Беларусь
6 — Цэнтральная бібліятэка АН Літоўскай Рэспублікі
7 — Навуковая бібліятэка Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта
8 — Бібліятэка Беларускага дзяржаўнага універсітэта
9 — Урадавая бібліятэка імя Горкага СМ Рэспублікі Беларусь
10 — Смаленская абласная бібліятэка
ПКВГ — «Памятная книжка Витебской губернии»
ПЕВ — «Полоцкие епархиальные ведомости»
ВГВ — «Витебские губернские ведомости»

1. Исторические сведения о витебских замках //ПКВГ на 1881. Ч. 2.
2. Летопись г. Витебска. Витебск, 1882. 21 с. |2|
3. Витебская старина. Витебск, 1883. Т. 1. 669 с. |1|2|3|4|5|7|8|

---

* Наяўнасць іх у бібліятэках пазначана ў квадратах.

4. Несколько слов о еврейском населении города Витебска // ПКВГ на 1883; Отд. изд.: Витебск, 1883. 32 с. |2 |9 |

5. Историческая записка 75-летия витебской гимназии. Витебск, 1884. 167 с. |1|2|3|5|7|9|

6. Польско-литовское и русское законодательство о евреях. Витебск, 1884. 103 с. |1|2|3|5|7|

7. Витебская старина. Витебск, 1885. Т. 4. 768 с. |1|2|3|4|5|7|

8. Древности Спасо-Ефросиниевского девичьего монастыря в Полоцке // ПЕВ. 1885. № 8—10; Отд. изд.: Витебск, 1885. 23 с. |1|

9. Исторический и статистический очерк Витебской губернии // ПКВГ на 1885.

10. Краткий обзор Витебской губернии в географическом и историческом отношении // ПКВГ на 1885. Ч. 1. С. 175—208.

11. Андрей Бобыля и его мощи в Полоцке // ВГВ. 1886. № 78.

12. Инфлянты. Исторические судьбы края, известного под названием польских инфлянт // ПКВГ на 1887; Отд. изд.; Витебск, 1886. 36 с. |2|3|5|6|7|

13. Обращение местечка Лепеля в уездный город // ВГВ. 1886. № 81.

14. Отрывки из дневника Яна-Владислава Погобута-Одляницкого о войне России с Польшей (1660—1665 гг.) // ВГВ. 1886. № 89—92.

15. Пребывание императрицы Екатерины II в Полоцке // ВГВ. 1886. № 69—71; Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1916. Вып. 3. |1|2|3|4|

16. Полоцкий Софийский собор // ВГВ. 1886. № 41, 44, 50; Отд. изд.: Витебск, 1888. 20 с. |1|2|3|5|

17. Подтвердительная грамота, данная королем Станиславом-Августом г. Невелю // ВГВ. 1886. № 84.

18. Привилегии г. Велижа // ВГВ. 1886. № 98—100.

19. Рапорт полоцкого коменданта Данилова о мерах и охране г. Полоцка от вторжения мятежников в 1831 году // ВГВ. 1886. № 86.

20. Заметка по делу об основании полоцкой иезуитской коллегии и об имениях ее // ВГВ. 1887. № 39—44.

21. Легенда о В. П. Шереметеве и иезуитском костеле св. Стефана в Полоцке // ВГВ. 1887. № 23.

22. Отписка витебского воеводы Долгорукова и грамота царя Алексея Михайловича об освящении в Витебске двух церквей и об образах, написанных «не по подобию» // ВГВ. 1887. № 8.

23. Укрепление г. Себежа в 1656 г. // ВГВ. 1887. № 18 (?)

24. Озеро Лубань // ВГВ. 1887. № 28.

25. Религиозное состояние так называемых польских инфлянт в начале XVIII в. // ВГВ. 1887. № 26.

26. Удаление пиоров из Полоцка в 1830 г. // ВГВ. 1887. № 76.

27. Материалы для истории Полоцкой епархии. Витебск, 1887. Ч. 1. 527 с. |2|

28. Коллегия и академия иезуитов в Полоцке // ВГВ, 1887. № 17, 21.

29. Дело о передаче Велижем Себежа и Невеля королю польскому в 1678 г. // ВГВ. 1887. № 20.

30. Витебская старина. Витебск, 1888. Т. 5. 650 с. |1|2|3|7|

31. Древние иконы Божией Матери в Полоцкой епархии // Виленский календарь на 1888 г.; Отд. изд.: Витебск, 1888. 15 с. |1|2|3|5|9|

32. Католическая легенда о Параскеве, княжне Полоцкой. Витебск, 1888. 47 с. |1|2|3|5|9|

33. Полоцкий Спасо-Ефросиньевский девичий монастырь // ПЕВ, 1888.

34. Исторические судьбы Полоцкой епархии с древнейших времен до половины XIX в. Витебск, 1889. 174 с. |1|2|3|7|9|

35. Описание Невельского и Себежского уездов Витебской губернии в историческом, географическом, сельскохозяйственном, статистическом и этнографическом отношении // ПКВГ на 1888 г. (в соавторстве с Н. Мещерским и Н. Пестовым).

36. Усвят (местечко Витебской губернии) и святыня его. Витебск, 1889. 35 с.

37. Судьба православия в Полоцкой епархии // ПЕВ. 1889. № 10; Отд. изд.: Витебск, 1889. 23 с. |2|

38. Речь, произнесенная 8 июня в актовом зале витебской мужской гимназии // ПЕВ, 1889. № 14; Отд. изд.: Витебск, 1889. 17 с. |1|

39. Торжества православия. Начало православия в Полоцкой епархии. Гонения на него во время унии. Витебск, 1889. 24 с. |1|2|3|

40. Двинские или Борисовы камни. Витебск, 1890. 31 с. |1|2|3|4|5|6|7|

41. Заметка о коллегии и академии иезуитов в Полоцке. Витебск, 1890. 34 с. |1|2|3|

42. Чудотворная икона цесарской Божьей матери в м. Усвяты Витебской губернии // ПЕВ. 1890. № 10; Отд. изд.: Витебск, 1890, 8 с. |1|2|

43. Освещение Спасо-Преображенской церкви в м. Усвяты // ПЕВ. 1890. № 4; Отд. изд.: Витебск, 1890. |1|.

44. Отчет Витебского статистического комитета за 1890 год. Витебск, 1891.

45. Витебск: Ист. очерк // Энциклопед. словарь Ф. А. Брокгауза и И. А Ефрона. СПб. Т. 6. С. 562—565.

46. Столетие воссоединения Руси Белой с Великой // ВГВ. 1893. № 25.

47. Река Западная Двина. Витебск, 1893, 512 с. |1|2|3|5|7|

48. Археологические находки в Виленской губернии (два неизвестных еще Борисова камня) // ВГВ. 1894. № 81.

49. К истории освобождения крестьян от крепостной зависимости // ВГВ. 1894. № 84.

50. Витебский Успенский собор в связи с событиями из религиозной жизни витеблян // ПЕВ. 1894. № 4—5, 9—11; Отд. изд.: Витебск, 1894. 19 с. |1|5|

51. Значение царствования императрицы Екатерины II для

Западного края вообще и для Витебской губернии в частности // ПЕВ. 1896. № 22. |2|3|6|

52. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896. 144 с. |1|2|3|5|7|

53. М. Л. Веревкин: Некролог // ВГВ. 1896. № 16.

54. Достоверность отрывка из Полоцких летописей, помещенных в «Истории России» Татищева под 1217 годом // Чтения в Императорском обществе истории и древностей Российских при Московском университете. М., 1898. Кн. 3. С. 3—13.

55. Исторические отношения Руси Белой и Великой // ПКВГ на 1898 год (приложение); Отд. изд.: Витебск, 1898. 20 с. |6|

56. Разбор сочинения Фр. фон Кейслера «Окончание первоначального русского владычества в Прибалтийском крае в XIII столетии. СПб., 1898. 54 с. |10|

57. Губернаторский дворец в Витебске. Витебск, 1901. 32 с. |2|3|5|9|

58. Могилев в 20-х годах прошлого века // Могилевская старина. Вып. 2. С. 138—141.

59. Архивы в городах Могилевской губ. и Минске // Археограф. комиссии Моск. археол. об-ва. Т. 2; Отд. изд. М., 1902. 14 с. |1|

60. Архив Полоцкой духовной консистории // Тр. Археограф. комиссии Моск. археол. об-ва. М., 1898. Т. 1; Отд. изд.: М., 1898. 103 с. |1|

61. Памятники времен древних и новейших в Витебской губернии // ПКВГ на 1903; Отд. изд.: Витебск, 1903. 97 с. |1|2|3|5|6|7|

62. Ильинская церковь в Витебске // ПЕВ. 1904. № 9. 12; Отд. изд.: Витебск, 1904. 8 с. |2|

63. Кустарная промышленность в Витебской губернии // ВКВГ на 1904 г.

64. Россия. СПб., 1905. Т. 9. Гл. 7—10. |1|2|3|4|5|6|7|

65. План города Витебска, с объяснениями к плану // ПКВГ на 1905 г.; Отд. изд.: Витебск, 1905.

66. Периодическая печать Витебской губернии // ПКВГ на 1905 г.

67. Список населенных мест Витебской губернии / Под ред. А. Сапунова. Витебск, 1906. 450 с. |1|

68. Записки Т. Леглера о походе 1812 года. Сообщение А. Сапунова // Рус. архив. 1907. № 2 с. 231—262.

69. Землевладение и землевладельцы Витебской губернии в 1905 году. Под ред. А. Сапунова. Витебск, 1907. 367 с. |1|2|

70. Университет в Полоцке // ВГВ. 1908. № 77, 80; Отд. изд.: Витебск, 1908. 41 с. |1|3|

71. Общие сведения по Витебской губернии. I. Пространство, II. Города, III. Местечки // ПКВГ на 1908 г.

72. Речь члена Государственной думы А. П. Сапунова, произнесенная в заседании думы 17 января в защиту законопроекта об урегулировании арендного вопроса. Витебск, 1908. 14 с. |1|

73. Речь члена Государственной думы А. П. Сапунова, произнесенная в заседании думы 2 апр. в защиту законопроекта «О застройке», внесенного правительством // ВГВ. 1911. № 79.

74. Речь члена Государственной думы А. П. Сапунова, произнесенная в заседании думы 11 мая в защиту законопроекта, внесенного в Гос. думу министром внутренних дел, о применении Положения о земских учреждениях 12 июня 1890 г. к губерниям Витебской, Минской, Могилевской и Подольской // ВГВ. 1910. № 107; Отд. изд.: Витебск, 1910. 12 с.

75. Речь члена Государственной думы А. П. Сапунова, произнесенная в заседании думы 30 мая 1909 г., о необходимости изменения порядка выборов членов Государственного совета от 9 губерний Западного края // ВГВ. 1909. № 140; Отд. изд.: Витебск, 1909. 16 с. |1|2|7|9|

76. Белоруссия и белорусы // ВГВ. 1910. 8 окт.; Отд. изд.: Витебск, 1910. 21 с. |1|2|

77. Очерк исторических судеб православия и русской народности в Белоруссии вообще и в пределах Полоцкой епархии в частности // ВГВ. 1910. № 117—118; Отд. изд.: Витебск, 1910. 30 с. |1|

78. «Чертеж» города Витебска 1664 г. // Тр. Витеб. учен. архив. комиссии. Витебск, 1910. Кн. 1. Отд. изд.: Витебск, 1910. 31 с. |1|2|9|

79. Привилегии, данные королями польскими г. Витебску // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 11; Отд. изд.: Витебск, 1912. 10 с. |1|

80. Рисунки крепостей, построенных по велению царя Ивана Грозного после завоевания Полоцка в 1563 г. // Полоцко-Витебская старина. Витебск, 1912. Вып. 11; Отд. изд.: Б. м., Б. г., 32 с. |1|4|

81. Речи в Государственной думе III созыва. СПб., 1910. 48 с. |1|

82. Чей прах покоится в нише Полоцкого Софийского собора? // Полоцко-Витебская старина. Вып. 2. Витебск, 1912; Отд. изд.: Витебск, 1912, 8 с. |1|4|

83. Исторический очерк 50-летия Витебского губернского статистического комитета // ПКВГ на 1914 г.; Отд. изд.: Витебск, 1914. 37 с. |2|3|

84. Сказания исландских, или скандинавских саг, о Полоцке, князьях полоцких и р. Западной Двине // Полоцко-Витебская старина. Вып. 3. Витебск, 1916.

85. Витебский кафедральный св. Николаевский собор // ВГВ. 1916. № 31, 34, 44, 59, 80, 85, 92.

86. Балтийские славяне и их 4-вековая борьба с немцами // Витеб. вестн. 1916. |4|

87. Хлебная разверстка в Витебской губернии в 1915—1916 гг. Витеб. край. 1917. № 8.

88. Краткая характеристика белорусов // Белорус. этнограф. 1922. № 2.

89. Витебская губерния и ее место в Белоруссии. Витебск, 1923.

90. Очерк Витебской губернии в естественно-историческом, и географическом отношениях // Бюл. официальн. распоряжений и сообщений Витебского ОНО. 1924. № 4, 5, 6, 7.

91. Кто такие белорусы? // Изв. Витебского губкома РКП/б и губисполкома. 1924. 23 февр.

92. Исторические судьбы Белоруссии // Изв. Витебского губкома РКП/б и губисполкома. 1924. 26 февр.

## ЗАЎВАГІ

[1] Ва ўсіх прыжыццёвых публікацыях аб А. П. Сапунове, уключаючы і найбольш поўную, якая належыць Ул. Стукалічу (А. Сапуноў. Да 25-годдзя яго навуковай і літаратурнай дзейнасці. Віцебск, 1905), гаворыцца аб тым, што гісторык нарадзіўся ў 1852 годзе. Гэты год неаднаразова ўказваецца і самім Сапуновым у анкетах (Дзяржархіў Віцебскай вобласці, Ф. 204, оп. 1, д. 25, л. 6, 22, 23; д. 176, л. 364, д. 205, л. 23). Аднак у атэстаце, выдадзеным Сапунову пасля заканчэння гімназіі, дата нараджэння ўказана іншая — 15 сакавіка 1851 года (Дзяржархіў г. Пецярбурга, Ф. 14, оп. 5, д. 3920, л. 18). Яна ж прыводзіцца ў копіі метрычнага пасведчання, якое захоўваецца ў асабістай справе студэнта Пецярбургскага універсітэта (тамсама, л. 21). Зрэшты, у гэтай жа справе ёсць дакумент (л. 19), які ўказвае на тое, што ў жніўні 1862 г. Аляксею Сапунову было 10 з паловай гадоў, г. зн., што ён нарадзіўся ў 1852 годзе. І ўсё ж даце 15 сакавіка 1851 варта аддаць перавагу.

[2] Рэшткі Замкавай гары былі знесены ў пачатку 1970-х гадоў.

[3] У гэтым будынку ў 1923—1973 гадах знаходзіўся Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава. Ён быў знесены ў час рэканструкцыі вуліцы Замкавай у сярэдзіне 1970-х гадоў.

[4] М. Улашчык памылкова лічыў яе адным са спісаў «Летапісу горада Віцебска» (Уводзіны і вывучэнне беларуска-літоўскіх летапісаў. М., 1985. С. 219—220).

[5] «Хроніка» ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя захоўвалася ў Віленскай публічнай бібліятэцы, а цяпер знаходзіцца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай Рэспублікі. Паведамленне аб ёй, якое некалькі гадоў назад з'явілася ў рэспубліканскай прэсе як аб «невядомым навуцы гістарычным дакуменце», не адпавядае сапраўднасці. На самой справе ў першым томе «Віцебскай даўніны» апублікавана нямала дакументаў менавіта з «Хронікі». Аб гэтым паведаміў сам Сапуноў у прадмове і заўвагах.

[6] Улашчык М. Нарысы па археалогіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду. М., 1973. С. 237—238.

[7] У цяперашні час найбольш верагоднай лічыцца версія акадэміка Б. Рыбакова. Заўважыўшы, што Барыс правіў у Полацку ў 1127—1128 гадах, калі з-за неўраджаю ў горадзе быў моцны голад, вучоны выказаў меркаванне, што крыжы і надпісы на валунах былі зроблены ў 1128 годзе і заклікалі Бога паслаць ураджай.

З апісаных А. Сапуновым Барысавых камянёў да нашых дзён захаваліся два: адзін у Дзяржаўным гістарычным музеі, а другі ў 1987 годзе быў перавезены ў Полацк і ўстаноўлены каля Сафійскага сабора.

[8] Заработная плата архіварыуса складала 600 рублёў у год, плюс даплата 300 рубёў. А пачынаючы настаўнік А. Сапуноў у 1874 годзе атрымліваў 750 рублёў у год і 160 рублёў як класны настаўнік, ды яшчэ 500 рублёў за дадатковыя ўрокі (Памятная кніжка Віленскай навучальнай акругі на 1874 год. Вільня, 1874. С. 31).

[9] Матэрыялы па гісторыі і геаграфіі Дзісненскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні. Віцебск, 1896. С. 41—43.

[10] Аврех А. Столыпин и третья Дума. М., 1968. С. 30.

[11] Сапуноў А. П. Прамовы ў Дзяржаўнай Думе 3-га скліканoccupation ня. СПб., 1912. С. 31—32.

[12] А. П. Сапуноў. Прамовы ў Дзяржаўнай Думе 3-га склікання.

[13] Сапунов А. Белоруссия и белорусы. Витебск, 1910. С. 4.

[14] Правільна — Дыманова.

[15] Да 1973 г. датай заснавання Віцебска лічылася першае ўпамінанне аб горадзе ў «Сафійскім I летапісу» — 1921 год.

## ЗМЕСТ

**Падліпскі А. М.**
П 12 Летапісец Віцебшчыны / Пер. з рус. мовы А. Ф. Чарданцавай.—Мн.: Полымя, 1993.—92 с.: іл. — (Нашы славутыя землякі).
ISBN 5-345-00697-0.
Подлипский А. М. Летописец Витебщины

Кніга прысвечана беларускаму гісторыку А. П. Сапунову, які шмат зрабіў для вывучэння Полацка-Віцебскага краю. Спадчына яго багатая, а працы настолькі значныя, што без знаёмства з імі не можа абысціся ніводны сур'ёзны даследчык мінулага гэтага рэгіёна. Да нашага часу не перавыдадзены яго творы, што выйшлі яшчэ пры жыцці аўтара. Кніга з'яўляецца першай спробай пазнаёміць шырокае кола чытачоў з асобай, лёсам і творчай дзейнасцю выдатнага знаўцы віцебскай даўніны.

П $\frac{0503020903-012}{М\ 306(03)-93}$ 25—93 ББК 63.3(2Б)

Научно-популярное издание

*Подлипский Аркадий Михайлович*

**ЛЕТОПИСЕЦ ВИТЕБЩИНЫ**

Минск, издательство «Полымя»

На белорусском языке

Навукова-папулярнае выданне

*Падліпскі Аркадзь Міхайлавіч*

**ЛЕТАПІСЕЦ ВІЦЕБШЧЫНЫ**

Заг. рэдакцыі *Л. І. Круглова*
Рэдактар *П. П. Сушко*
Мастацкі рэдактар *І. А. Дзямкоўскі*
Тэхнічны рэдактар *С. І. Стараверава*
Карэктар Т. С. Бялінская

Здадзена ў набор 14.07.92. Падпісана да друку 17.03.93. Фармат 70×108$^{1}/_{32}$. Папера Друк. № 1. Высокі друк. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 4,20. Ум фарб.-адб. 4,38. Ул.-выд. арк. 4,09. Тыраж 5 000 экз. Выд. № 8580. Зак. 611.

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 432. 220600, Мінск, пр. Машэрава, 11.

Друкарня «Победа». 222310. Маладзечна, В. Таўлая, 11.

# У ВЫДАВЕЦТВЕ «ПОЛЫМЯ» У 1993 г. РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫХАДУ Ў СВЕТ:

Чаропка В. К. **Імя ў летапісе.**

Аўтар расказвае пра гістарычных асоб мінулага Беларусі: Рагвалода, Святаполка Тураўскага, Усяслава Чарадзея, Глеба Менскага, Міндоўга, Гедыміна, Ягайлу і інш. Падзеі X—XV стагоддзяў на Беларусі разглядаюцца аўтарам у кантэксце еўрапейскай гісторыі. Чытач даведаецца пра барацьбу Полацкага княства за сваю незалежнасць, пра ўзнікненне Вялікага княства Літоўскага, вайну беларуска-літоўскай дзяржавы з Тэўтонскім ордэнам, Залатой Ардой, Маскоўскім княствам, Польшчай.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

Насевіч В. Л. **Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: падзеі і асобы.**

У кнізе прыводзяцца малавядомыя звесткі. Постаці князёў і палкаводцаў паказаны ў перыпетыях палітычнай барацьбы таго часу. Беларускія чытачы ўпершыню атрымаюць магчымасць пазнаёміцца з генеалогіяй княжацкіх радаводаў. Падзеі далёкай мінуўшчыны атрымалі некалькі іншае асэнсаванне, чым у кніжцы В. Чаропкі «Імя ў летапісе».

Ігнатовіч Ф. І. **Уладзіслаў Борзабагаты.**

Прысвячаецца рэвалюцыянеру-дэмакрату, паплечніку К. Каліноўскага, урачу У. К. Борзабагатаму, Нарадзіўшыся на Навагрудчыне, ён стаў у час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—1864 гг. рэвалюцыйным камісарам Навагрудскага павета, а пазней, у эміграцыі, у дні Парыжскай камуны галоўным медыкам шпіталю камунараў.

Гузанаў В. Р. **Адысей з Беларусі.**

У горадзе Хакадаце, на востраве Хакайда, стаіць помнік першаму расійскаму консулу ў Японіі — Іосіфу Антонавічу Гашкевічу (1814—1875). Сын беларускага народа, ён першым з усходнеславянскіх вучоных наведаў Паўднёвую Афрыку, вывучаў флору і фауну Кітая, Філіпін, Карэі, Японіі. І. Гашкевіч валодаў многімі замежнымі мовамі і нават склаў японска-рускі слоўнік. Ён здзейсніў плаванне на знакамітым фрэгаце «Палада». Пра яго багаты на неверагодныя прыгоды жыццёвы шлях і паведамляе гэта кніга, матэрыял для якой пісьменнік В. Гузанаў збіраў не толькі ў былым Савецкім Саюзе, але і ў Японіі, дзе па сённяшні дзень жыве памяць пра нашага земляка.

Тарыкаў А. А. **Зарніцы ў глыбінях азёр** (на рускай мове).

Глыбоччына — край унікальны. Непаўторная прырода, разнастайныя краявіды, невыказна прыгожыя азёры. Гэта зямля захоўвае тайны тысячагоддзяў, памяць пра многія пакаленні. Тут нарадзіліся графік і скульптар Язэп Драздовіч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра Беларусі Ігнат Буйніцкі, удзельнік вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі Алесь Дубровіч. Кніга ахоплівае вялікі перыяд гісторыі Глыбоччыны, расказвае пра яе сучаснасць, знаёміць з незабыўнымі куточкамі азёрнага краю.

Для шырокага кола чытачоў.